—*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
30
КАСТРЫЧНІКА
1992 г.
№ 44 (3662)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 1 рубель. (Па падпісцы — 10 кап.)

3 лістапада — 110 гадоў з дня нараджэння Якуба Коласа



## Беларусам

**Устаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі!**
**Ўстань ты, наша старана!**
**Ўжо глядзіць к нам на палаткі**
**Жыцця новага вясна.**

**Ці ж мы, хлопцы, рук не маем!**
**Ці ж нам сілы бог не даў!**
**Ці ж над родным нашым краем**
**Промень волі не блішчаў!**

**Выйдзем разам да работы,**
**Дружна станем, як сцяна,**
**І прачнецца ад дрымоты**
**З намі наша старана!**

1906 г.

Матэрыялы, прысвечаныя юбілею Песняра—на стар. 5—11, 14—15.

ДАЗВОЛЬЦЕ, ДЗЯДЗЕЧКА...

# СТАЛІ ПЕРАД ФАКТАМ...

На імя міністра народнай адукацыі Беларусі В. Гайсёнка, а таксама ў «ЛіМ» прыйшоў ліст з гісторыка-культурнага таварыства «Паходня» (г. Гродна). Прыводзім яго змест:

«Мы са смуткам даведаліся, што ў школах Беларусі будуць вучыць ужо не гісторыю СССР, якая няхай фармальна, але лічылася агульнай, а проста гісторыі Расіі (пад назвай «Отечество»).

Яшчэ крышачку і мара пра «Северо-Западный край» стане явай для пэўнай колькасці юных грамадзян суверэннай Беларусі. Такія подзвігі чыноўніцтва адукацыі выклікаюць не абурэнне, не здзіўленне, а самую звычайную гідлівасць. Як трэба пагарджаць сваёй дзяржавай, каб пазбавіць яе сістэму выхавання адпаведных падручнікаў! Мінімум 5 год ідзе адкрытая гаворка пра смяротны ўплыў абэцэдаршчыны на душы і розум юнацтва. І вось знайшлі лякарства горш хваробы!

Гэта за мяжою трэба камуфлявацца пад дзяржаўны патрыятызм. А тут на сваім падворку, нашпігаваная прыезнымі «просветителями» сістэма адукацыі надзейна фільтруе любыя спробы адраджэння нацыянальнай і гістарычнай свядомасці народа на першай прыступцы, у дзяцінстве. І «просветители» і тутэйшыя іх памагатыя добра ведаюць, што скалечаная самасвядомасць народа дазволіць і надалей віць з яго вяроўкі, рабаваць і прадаваць яго.

Мы не разлічваем на хуткае выпраўленне «памылкі». Мы яшчэ раз выказваем сваё абурэнне і незадавальненне такой працай вашых падначаленых, спадар Міністр, і спадзяемся, што Бог вызначыць ім тое, чаго яны заслугоўваюць».

Мы мелі тэлефонную гаворку з міністрам народнай адукацыі РБ і вось пра што даведаліся. Сродкі на ранейшы падручнік — па гісторыі СССР — былі пераведзены ў Маскву яшчэ два гады таму. Непрыемным сюрпрызам сталася тое, што ў падручнікаў, якія выдаюцца ў Расіі, змянілі вокладку і назву. Міністэрства аказалася перад фактам — альбо дзеці Беларусі зусім не мецьмуць падручніка па гісторыі, альбо будуць вучыцца па расейскім... Як кажуць у такіх выпадках — не было выйсця.

Адзінае, чым суцешыў нас Віктар Анатольевіч, — распрацавана праграма падрыхтоўкі свайго падручніка па сваёй гісторыі. Не выключана, калі ўсё будзе добра, то ў другой палове навучальнага года нашы дзеці іх атрымаюць. Будзем чакаць!

# Кола Дзён

28 кастрычніка здарыўся... канец свету. Той, хто ў гэтым сумняваецца, можа пагартаць газеты за апошнія тыдні. Наўрад ці выпадкова гэтая «інфармацыя» пачала мусіравацца ў друку акурат у час падпісной кампаніі. Праўда, у заахвочванні падпісчыкаў публікацыямі падобных сенсацый няма логікі: які ж сэнс выпісваць газеты напярэдадні Страшнага Суда? Хіба што з мэтай даведацца аб падрабязнасцях сусветнай катастрофы на старонках улюбёнага выдання...

Як бы то ні было, ёсць прычына яшчэ раз успомніць старую ісціну — наша будучыня залежыць толькі ад нас саміх. Ну, і канечне, ад Бога.

**22 КАСТРЫЧНІКА**

**Надзвычайны і паўнамоцны пасол ФРГ на Беларусі Г. Альбрэхт змяніў на гэтай пасадзе Р. Краўса і ўручыў даверчыя лісты Старшыні ВС Беларусі С. Шушкевічу.**

**Намеснік міністра абароны Беларусі А. Тушынскі і намеснік міністра абароны ЗША Ф. Уізер падпісалі ў Вашынгтоне шэраг пагадненняў, якія тычацца тэхнічнай дапамогі Пентагона пры вывадзе з Беларусі ядзернай зброі і кантролю за экспартам ядзерных матэрыялаў. Дарэчы, як нядаўна паведамлялася, органамі бяспекі рэспублікі спынена спроба выкрасці некалькі дзесяткаў кілаграмаў урану з мэтай яго продажу.**

**23 КАСТРЫЧНІКА**

**Спікер Вялікага Нацыянальнага Сходу (парламента) Турцыі Х. Джындарук, які знаходзіўся з візітам на Беларусі, сустрэўся са Старшынёй Вярхоўнага Савета рэспублікі С. Шушкевічам. Госць выступіў з кароткай прамовай на пасяджэнні ВС Беларусі.**

**24 КАСТРЫЧНІКА**

**У Маскве прайшоў устаноўчы з'езд Фронту нацыянальнага ўратавання, у які ўвайшлі прадстаўнікі апазіцыі ўсіх адценняў — ад «белых» да «чырвоных». Фронт абвясціў курс на «канстытуцыйнае» звяржэнне прэзідэнта Расіі і цяперашняга ўрада. Прэзідэнт у адказ прыняў рашэнне распусціць Фронт.**

**25 КАСТРЫЧНІКА**

**Нечаканыя вынікі прынеслі выбары ў сейм у Літве. Найбольшы працэнт галасоў на іх атрымала Дэмакратычная партыя працы (былая самастойная Кампартыя Літвы). Яе лідэр А. Бразаўскас перамог у сваёй акрузе экс-прэм'ера Г. Вагноруса. «Саюдзіс» па выніках галасавання апынуўся на другой пазіцыі, на трэцяй — хрысціянскія дэмакраты. Большасць выбаршчыкаў выказалася за новую Канстытуцыю рэспублікі. А гэта азначае, што наперадзе прэзідэнцкія выбары.**

**Прэзідэнт ЗША Дж. Буш у ходзе свайго перадвыбарчага турнэ па краіне падпісаў закон аб дапамозе краінам СНД у памеры 410 мільёнаў долараў. Аднак старшыня Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця М. Камдэсю даволі скептычна ацаніў гэтую вельмі запозненую акцыю.**

**26 КАСТРЫЧНІКА**

**Паражэннем скончылася спроба антыўрадавых сіл у Таджыкістане захапіць уладу ў Душанбе. Кулябскія фарміраванні былі выбіты з горада сіламі Камітэта нацыянальнай бяспекі і Унутраных войск. Тым часам, як паведамляе БелаПАН, у Мінску ўжо зарэгістравана звыш 240 бежанцаў — у тым ліку з Таджыкістана.**

**27 КАСТРЫЧНІКА**

**Старшыня СМ Беларусі В. Кебіч правёў у Маскве перамовы з Я. Гайдарам. Асноўнай тэмай перамоў была выплата запазычанасцей расійскіх прадпрыемстваў беларускім і ўмовы пастаўкі нафты.**

**У Мінску ўпершыню адкрылася выстава-кірмаш «Канверсія-92», на якой прадпрыемствы абарончага комплексу рэспублікі прадставілі тавары народнага спажывання.**

**Пімен ПАНЧАНКА**

# Плявакі

**Жыў калісьці ў Расіі**
**адвакат славуты Плявака,**
**Ён, як светлы прамень**
**між чыноў паслухмяных, суконных.**
**Ён не грэбаваў**
**адвакацкім-прываркам,**
**А падсудных заўжды бараніў**
**вынаходліва, мудра, законна.**
**А цяпер толькі й чуеш:**
**«Напляваць мне на вашы нарады...**
**На закон, на начальства,**
**на ваша натхненне, майстэрства;**
**На міліцыю, на парады**
**законнай улады**
**І на ўсе цыркуляры**
**усіх гультаёў-міністэрстваў».**
**Была годнасць у нас —**
**ды чыноўнікі затапталі.**
**На ўсё нам пляваць**
**з вечнай рыфмай агіднаю «маць».**
**А пра што мы ўсе марым —**
**у нас не пыталі.**
**Быў калісьці і сорам,**
**ды не здолелі ўтрымаць...**
**І запэцкалі брудам усё,**
**засмуродзілі...**
**Не засталося ў душы**
**анічога святога...**
**Абіралаў-грабежнікаў**
**шчодра ўзнагародзілі**
**Асабнякамі і дачамі —**
**хваліся, зладзейская погань!**
**У нас вякамі жылі**
**людзі добрыя, а не пудзілы...**
**А цяпер ад Кара-Кумаў**
**і да тундры —**
**Заплявалі і захаркалі,**
**зямлю запаскудзілі**
**Плевачы і плюючыкі,**
**і звычайныя плюндры.**
**Усё мы маем:**
**ад вялікіх падаткаў**
**да нішчымных пенсій,**
**А цяпер прыйшла**
**жабрацкая нядоля.**
**Прадалі нас за мяжу**
**за цэнты і за пенсы,**
**І штодня — малебны:**
**молімся на долар.**

**ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК**

# ПРАЦЭС ПАЙШОЎ...

Абмеркаваўшы інфармацыю СМ Беларусі аб становішчы ў эканоміцы і ў меру пакрытыкаваўшы ўрад, дэпутаты перайшлі да абмеркавання праекта Асноўнага Закона.

Трэба заўважыць, што другое чытанне праекта Канстытуцыі, згодна з рэгламентам, прадугледжвае яе абмеркаванне па артыкулах. Дыскусія, аднак, прыняла канцэптуальны, дакладней сказаць — ідэалагічны характар. Пачатак дэбатаў нагадваў навукова-практычную канферэнцыю па ...Канстытуцыі БССР 1978 года. Многія з дэпутатаў (найчасцей — прадстаўнікі ветэранскіх арганізацый) прапаноўвалі захаваць у новым законе «ўсё лепшае» з брэжнеўскага. Напрыклад — паняцце сацыялістычнага ладу, права на бясплатнае лячэнне, адукацыю і г. д. Адзін з дэпутатаў успомніў пра рэферэндум 17 сакавіка 1991 года, калі «выбаршчыкі галасавалі за СССР, а значыць — за сацыялізм». Другі даводзіў, што ніхто не даваў права дэпутатам мяняць Канстытуцыю БССР і прымаць цяперашнія дзяржаўныя сцяг і герб. Трэці разважаў аб тым, што Англія, маўляў, няблага жыве без канстытуцыі, і таму яна нам таксама не патрэбна.

Пры гэтым ледзь не кожны з выступаючых уносіў прапанову вынесці на рэферэндум тое або іншае пытанне — ад інстытута прэзідэнцтва, прыватнай уласнасці на зямлю і да... дзяржаўнай сімволікі і «двухмоўя».

Да большасці дэпутатаў, верагодна, так і не дайшло, што існуюць пытанні, вырашаць якія метадам усенароднага апытання абсурдна. Увядзенне ж дзвюх дзяржаўных моў у цяперашняй сітуацыі прывядзе на практыцы да звычнага рускага «аднамоўя». Беларуская мова, сказаў, у прыватнасці, дэпутат Н. Гілевіч, перажыла вельмі цяжкія выпрабаванні ў даўнім і зусім нядаўнім мінулым. Трэба думаць, перажыве яна і рэферэндум. Але сам факт яго правядзення стаў бы ганебным прэцэдэнтам у сусветнай практыцы.

Між іншым, сацыялагічныя даследаванні (з вынікамі аднаго такога даследавання пазнаёміў парламентарыяў дэпутат А. Вярцінскі) паказваюць, што пазіцыя большасці жыхароў Беларусі адносна дзяржаўнай мовы зусім не такая прымітыўная і адназначная, як таго хацелася б многім дэпутатам і чыноўнікам.

Што ж датычыць спекуляцый вакол «дыскрымінацыі» рускай мовы ў рэспубліцы, дык спікер парламента С. Шушкевіч прывёў красамоўную даведку аб суадносінах тыражоў выданняў, якія карыстаюцца падтрымкай дзяржавы. Суадносіны такія: 91,5 працэнта агульнай колькасці экземпляраў складаюць рускамоўныя выданні і 18,5 — беларускія.

Паколькі высветлілася, што пакуль няма не толькі механізму прыняцця Канстытуцыі, але і не адпрацаваны як след парадак яе далейшага абмеркавання, Вярхоўны Савет перайшоў да наступнага пытання — аб рэспубліканскім рэферэндуме. Па даручэнні Прэзідыума ВС па гэтым пытанні выступіў старшыня Камісіі па заканадаўстве Д. Булахаў. Ён паспрабаваў раздзяліць прававы бок праблемы і палітычны. З пункту погляду закона, даводзіў дакладчык, былі дапушчаны парушэнні як ініцыятыўнай групай па правядзенні рэферэндуму, так і Цэнтральнай выбарчай камісіяй. Старшыні ініцыятыўнай групы У. Анцулевічу дэпутаты адмовілі ў магчымасці выступіць на сесіі. Старшыні ЦВК А. Абрамовічу такая магчымасць прадастаўлена была. А. Абрамовіч адвёў усе прэтэнзіі да камісіі як неабгрунтаваныя і заявіў, што рашэнне аб рэферэндуме прымалася строга ў рамках закона. Іншая справа, што ёсць хібы і недахопы ў самім законе, выправіць якія мог і павінен быў Вярхоўны Савет, яго камісіі. Але ж, прыгадаў ён вядомую формулу, «працэс пайшоў»...

**Віталь ТАРАС.**

**Р. S. 213 дэпутатаў Вярхоўнага Савета прагаласавалі за рашэнне адхіліць прапанову «групы грамадзян» аб правядзенні рэферэндуму. Разам з тым прынята заява аб неабходнасці датэрміновых выбараў у сакавіку 1994 года.**

# РЭВАЛЮЦЫЯ НЕ ПЛАНАВАЛАСЯ

**На працягу двух дзён, 22—23 кастрычніка, у памяшканні інфармацыйна-культурнага Цэнтра Галоўнага Упраўлення Савета Міністраў РБ (колішні Дом палітасветы) праходзіў чарговы XIV з'езд Саюза мастакоў Беларусі. Яшчэ напярэдадні было вядома, што супрацьборчыя групоўкі ў мастакоўскім асяроддзі не маюць намеру канчаткова разыходзіцца ў розныя бакі і такім чынам нішчыць творчы саюз (хоць трэба прызнацца, што ён даўно пераўтварыўся ў прафсаюз). Таму ніякія рэвалюцыйныя рашэнні на з'езд не выносіліся.**

**Нашы чытачы, магчыма, памятаюць, што на мінулым з'ездзе былі жорсткія спрэчкі паміж прыхільнікамі незалежнага ад Масквы беларускага саюза мастакоў (Згуртавання беларускіх мастакоў) і «інтэрнацыяналістаў», зарыентаваных на захаванне структуры «па вобразе і падабенстве» Саюза мастакоў СССР (Саюза мастакоў БССР). Тады большасцю галасоў перамаглі апошнія. На гэтым з'ездзе былі ўнесены дапаўненні і змены ў Статут СМ РБ — і ён цяпер мала чым адрозніваецца ад таго варыянта, што прапаноўвалі ў 1990 годзе гэтыя самыя «нацыяналісты»... Няма прарока ў Айчыне! Адносна роўная хада з'езда зламалася, калі паўстала пытанне, што лічыць арганізацыйнай адзінкай Саюза — секцыі па відах мастацтва (жывапіс, графіка і г. д.) і тэрытарыяльныя арганізацыі (у абласцях, Менску) альбо яшчэ і творчыя суполкі (сёння іх у СМ тры — «Пагоня», «Верасень», «Няміга»)? Нарэшце за суполкамі прызналі права на існаванне і прадстаўніцтва ў Радзе СМ, але адносна прадстаўнічай квоты зноў узніклі не вельмі карэктныя дыскусіі.**

**Адбыліся выбары старшыні Саюза мастакоў. Сур'ёзна абмяркоўваліся кандыдатуры Г. Буралкіна і А. Марачкіна. У выніку тайнага галасавання скульптар Г. Буралкін быў абраны на другі тэрмін. Відаць, напалохаліся, што Марачкін правядзе ў СМ «беларусізацыю» і пакладзе канец спакойнаму прыкарытнаму жыццю многіх функцыянераў саюза. Генадзя Буралкіна можна павіншаваць і адначасова выказаць яму спачуванне. Дзяржавы як мецэната (і цэнзара!) ужо няма, а мецэнат-прыватнік яшчэ не нарадзіўся. Маёмасць СМ непазбежна чакае прыватызацыя і, хутчэй за ўсё, «дзікая» — хто што ўхопіць. Людзі, у тым ліку і з творчага асяроддзя, што прывыклі згінацца перад уладамі, атрымаўшы нейкае падабенства свабоды, часам разумеюць яе вельмі своеасабліва. Як права несці з трыбуны лухту і пляваць на прынятыя ва ўсім свеце этычныя нормы. Савецкае «выхаванне»...**

**З чым прыйдуць гэтыя людзі і сапраўдныя творцы на новы з'езд?**

**В. БОГУШ,**
**спецкар. «ЛіМа».**

# НЯПРОСТЫ ШЛЯХ ДА ІСЦІНЫ

Праблемы, праблемы... Наш хуткаплынны і супярэчлівы час з кожным днём прыносіць іх усё больш. Прытым, з'яўляюцца і такія, пра якія некалькі гадоў назад ніхто і не падумаў бы, бо яны проста не маглі ўзнікнуць. А цяпер...

Першае пытанне ў парадку дня агульнага сходу пісьменнікаў рэспублікі, што адбыўся ў аўторак, значылася — «Аб узаемаадносінах Саюза пісьменікаў Беларусі з Міжнароднай супольнасцю пісьменніцкіх саюзаў». Гаворка адбылася вострая і неадназначная. Гучалі галасы аб тым, што ўваходзіць у Міжнародную супольнасць нявартa, трэба развіваць двухбаковыя сувязі з творчымі саюзамі дзяржаў СНД і іншых краін. Аднак аргументаваліся і супрацьлеглыя меркаванні. Адначасова ўзнікла пытанне і пра ўзаемаадносіны Беларускага літаратурнага фонду з так званым Міжнародным літаратурным фондам у Маскве.

З паведамленнямі па пытаннях выступілі старшыня СП В. Зуёнак і старшыня літфонду Н. Пашкевіч. Думкамі па ўзнятых пытаннях падзяліліся Я. Брыль, С. Законнікаў, Б. Сачанка, Г. Далідовіч, Г. Пашкоў, А. Дзеружынскі, С. Красікаў, А. Асіпенка, В. Рагойша, А. Асташонак, А. Якімовіч, У. Някляеў, А. Слесарэнка, І. Скарынкін, Э. Валасевіч, Я. Мальчэўская, Г. Колас, В. Блакіт і іншыя.

У выніку адкрытага галасавання большасць удзельнікаў сходу выказалася супраць уваходу ў Міжнародную супольнасць пісьменніцкіх саюзаў.

Наступнае пытанне парадку дня было сфармулявана так: «Беларуская мастацкая кніга: выданне, прапаганда і рэцэнзаванне». Дакладчыкі дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» В. Грышановіч, галоўны рэдактар выдавецтва «Юнацтва» М. Пазнякоў, дырэктар Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП Беларусі Г. Дзмітрыеў, кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі П. Васючэнка далі трывожную карціну становішча, у якім апынулася сёння беларускамоўная кніга. На жаль, слухаць іх па сутнасці ўжо не было каму. Зала, не запоўненая цалкам і на пачатак сходу, была амаль пустая. Дзіўная абыякавасць!

Не пабольшала людзей і тады, калі Б. Сачанка расказваў аб захадах, якія прымаюцца СП Беларусі па паляпшэнні прапаганды і выдання кніг, паляпшэнні матэрыяльнага становішча пісьменнікаў. Прапановы наконт гэтага накіраваны Савету Міністраў Беларусі.

На сходзе прынята тэлеграма на адрас сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у якой выказана занепакоенасць літаратараў спробай асобных дэпутатаў навязаць суверэннай дзяржаве дзве дзяржаўныя мовы, гаворыцца аб неабходнасці паскарэння працэсаў нацыянальнага Адраджэння.

**Наш кар.**

# НА ДЗЯДЫ! —

## клічуць восені шаты

*У лістападзе гадоў чуцен голас мінулага роднай зямлі. Сэрца вольна спасьцігнуць адвечнасьці сувязь жывую...*

*Прывітаем на сьвята Дзядоў, дарагія браты! Аддадзім нашым продкам даніну павагі. Можа, сядзем за стол для пачэснай бяседы, як калісь яны самі. Разважым хвіліну-другую, як мінае, во, час... зьмяняюцца й скарбы людскія. Да толькі ніводзін ня варты ўвагі ў параўнаньні з адным - жыцьцём Вечным. Водбліск яго мірыядамі зорак зіхціць у Млечным Шляху, што глыбокаю ноччу пралёг над бацькоўскаю хатай.*

*Непадуладныя часу ні Радзіма, ні тыя, хто верна служыў ёй у мужнасьці духу. Не загаснуць гэтакім зоркам, як Францішак Скарына, Мікола Гусоўскі, Кастусь Каліноўскі, Янка Купала, Максім Багдановіч...*

*Хвала Госпаду, што даў нам такіх Дзядоў!*

*...Як здужаць сягоньня ў нас працы. Кожан укінуць павінен у скрыню жыцьця. Дык хай жа "ў сэрцы зьвініць, як каса ў траве: "Ты так жа, брат, сееш... а дзе твае жніва ?"*

*Пашчыруем, браты ?!*

Dainova Co. Ltd.

# Подзвіг Скарыны

**Выступленне міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятра КРАЎЧАНКІ на адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў гонар Францішка Скарыны ў Падуанскім універсітэце 20 кастрычніка 1992 г.**

Шаноўная грамада! Паважаныя спадарыні і спадары!

Беларусы, як і ўсе народы свету, маюць сваіх выдатных сыноў. Фізічна адыходзячы ад нас у вечнасць, яны духоўна застаюцца з намі, сваім існаваннем, прыкладам жыцця, геніяльным яго прадбачаннем яднаюць жывую повязь пакаленняў, вечнасць і неўміручасць нацыянальнага духу, несмяротнасць народа. І ў гэтым — існасць жыцця. Яны — духоўныя правадыры і павадыры нацыі, яе гонар і сумленне, шчасце і радасць, надзея і неўтаймоўны боль яе. Пакуль будзе існаваць жыццё на зямлі, датуль сэрца кожнага беларуса будзе саграваць вечнае сонейка, імя якому — Францішак Скарына.

Хто ён і што было зроблена ім дзеля таго, каб назаўсёды застацца ў памяці народнай?

Сёння, у гэты ўрачысты час мы з гонарам гаворым пра подзвіг Скарыны і са смуткам —пра яго трагедыю.

Проста немагчыма ўявіць і паверыць у тое, што ўсё, зробленае ім, створана адным чалавекам. Можна дзякаваць лёсу, што ў сярэднявеччы не звязалі гэта з д'ябальскім уплывам і нечалавечай апантанасцю.

Але гэта быў сапраўдны подзвіг у імя нацыі, першы подзвіг на цярністым шляху нацыянальнага Адраджэння і ў той жа час першы прыклад нацыянальнага месіянства. ЁН прыйшоў да свайго знясіленага народа, бо так было трэба. Прыйшоў час яго і час яго народа.

Гэта быў подзвіг, бо ён даў народу СЛОВА, роднае СЛОВА, дарагое для кожнага з нас СЛОВА. Як тут не ўспомніць Біблію: «І першым было слова!» Яго пераклад Святога Пісання на беларускую мову — першы сярод усходнеславянскіх народаў і другі, пасля чэшскага, сярод сусветнага славянства. На небасхіле нашай нацыянальнай гісторыі золатам зіхаціць 6 жніўня 1517 года, калі ў Празе-Чэшскай Скарына выдаў першую кнігу на старабеларускай мове «Псалтыр», а ўвогуле менш чым за два гады «пусціў у свет» 22 кнігі Святога Пісання.

Гэта быў подзвіг, бо ён заклаў падмурак нашага гуманізму і талерантнасці, нашай павагі да іншых, значна большай, чым да саміх сябе. Прычым у той час, калі ў Еўропе вера ператварылася ў фанатызм, у сваю знішчальную процілеглась і змрочныя сполахі вогнішчаў аўтодафэ наводзілі жах на кволых духам і целам.

Гэта быў подзвіг, бо, як у чароўнай казцы, дзвюма-трыма кнігамі ЁН адчыніў дзверы і з цемры вывеў людзей на святло, увёў нас у агульналюдскую, агульнаеўрапейскую сям'ю, у пантэон гуманістычнай культуры нашага кантынента, заявіў аб праве беларускага народа на нацыянальна-культурнае вызначэнне.

Мы — еўрапейцы-аўтахтоны і спрадвеку жылі на сваёй зямлі, але паводзілі сябе даволі стрымана, нясмела азіраліся навокал, а тут адразу, адным махам, увайшлі ў агульнаеўрапейскі культурны працэс.

Гэта быў подзвіг, бо Скарына даў народу веды ў сямі навуках «вызваленых», такіх, як граматыка, логіка, рыторыка, фізіка, арыфметыка і геаметрыя, музыка, астраномія.

Гэта быў подзвіг, бо ён першы сярод беларусаў выступіў супраць братазабойства, за тое, каб нацыя, якую раздзіралі на рэлігійныя канфесіі, адчула сябе хоць на нейкі час адным жывым нацыянальным целам, адчула сябе адзіным народам, які потым ворагі на працягу нашай шматпакутнай гісторыі яшчэ не раз «жыўцом ірвалі на кускі» (Я. Купала).

Такім чынам, веліч Скарыны, галоўны сэнс яго дзейнасці заключаецца ў тым, што, даўшы народу роднае слова ў звыклай для яго форме, стварыўшы сумесна з М. Гусоўскім падмурак нацыянальнай літаратуры эпохі Рэнесансу, даўшы «людзям паспалітым» самыя разнастайныя веды, ЁН па сутнасці ўдыхнуў у знясіленыя душы веру ў НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ, зрабіў усё, каб людзі нашы адчулі сябе НАРОДАМ, БЕЛАРУСАМІ.

У жыцці кожнага народа ідуць заўсёды поруч чорнае і белае, светлае і радаснае, змрочнае і трагічнае. Так і ў жыцці чалавека, тым больш такога незвычайнага, як Скарына.

Яшчэ і яшчэ раз варта падкрэсліць трагічнасць Скарыны, нявысветленасць і таямнічасць многіх старонак яго жыцця, супярэчлівасць яго жыццёвага шляху і лёсу. Муза гісторыі — Кліо,—здаецца, зрабіла ўсё, каб максімальна ўскладніць вывучэнне жыцця і творчасці Скарыны.

Мы і сёння дакладна не ведаем, калі нарадзіўся наш вялікі гуманіст, хоць большасць даследчыкаў схіляюцца да таго, што гэта шчаслівая падзея прыпадае на 6 сакавіка 1486 года ці на 1490 год і адбылася ў беларускім горадзе Полацку. Мы і сёння, падчас больш чым за 100-годдзе існавання навуковага скарыназнаўства, не ведаем дакладна яго канфесійнай прыналежнасці. Нарадзіўшыся ў праваслаўнай купецкай сям'і, атрымаўшы пачатковую адукацыю ў полацкіх манахаў-бернардзінцаў, носячы каталіцкае імя Францішак, у той жа час ён друкаваў свае кнігі кірыліцай, неаднаразова падкрэсліваючы, што робіць гэта для праваслаўнага люду.

Думаецца, зусім невыпадкова галоўную справу свайго жыцця — друкаванне першай беларускай кнігі — ён пачаў у праваслаўнае свята ПЕРАСТВАРЭННЯ, якое заўсёды асацыіравалася з АБНАЎЛЕННЕМ. І тут мы маем першы і незвычайна важны прыклад беларускасці. Калі ідэалогія, вера, няхай самыя лепшыя, дзеляць, ірвуць нацыю на часткі, яны павінны быць рашуча адсунуты ўбок і на першае месца павінны выйсці кроўная еднасць, яскравае ўсведамленне таго, што перш за ўсё мы — беларусы, браты па крыві, адзіны народ, а потым — усё астатняе. Думаю, што і ў сённяшніх абставінах самаахвярны прыклад жыцця Скарыны, яго запаветы гучаць вельмі актуальна ў палітычных варунках. Давайце ў гэты светлы час успомнім пра іх і назаўсёды гэта запомнім.

Белае і чорнае... Подзвіг, трыумф і трагедыя. Не многа знойдзецца людзей, якім быў наканаваны такі нялітасцівы і жорсткі лёс. Нястачы, практычна беднасць, вечныя вандроўкі па ўсёй Еўропе, смерць бацькоў, арышт брата ў Познані, заўчасная смерць жонкі Маргарыты, трагічная смерць малодшага і горача любімага сыночка Францішка, які загінуў, як сведчаць архіўныя дакументы, 2 чэрвеня 1541 года ў час пажару ў Празе ў доме сябра Скарыны — святара кафедры святога Віта, каноніка Вышаградскага Яна з Пухава, — ці не замнога гэта для аднаго чалавека? А калі дадаць да гэтага шмат складанасцей, звязаных з лёсам яго кніг, з іх знішчэннем цемрашальным духавенствам у Маскве, складанасцямі віленскага перыяду жыцця нашага першадрукара і асветніка, то ўзнікае пытанне: як усё гэта можна было вытрываць?

Такім чынам, паўстае не толькі трагедыя асобы, але і трагедыя нацыі, якая так і не ведае, дзе, як і калі адышоў у вечнасць, у неўміручасць Францішак Скарына, гістарычная постаць якога не мае сабе роўных.

Вось чаму для кожнага свядомага беларуса «старыя камяні Еўропы»— Полацка і Вільні, Кракава і Падуі, Прагі і Капенгагена, Кёнігсберга і Вітэнберга (там ён, відаць, сустракаўся з Марцінам Лютэрам) —святыня ў поўным сэнсе гэтага слова, своеасаблівая «духоўная Мекка», ім хоць раз у жыцці трэба абавязкова пакланіцца. Так, для нас з'яўляецца святой зямля братняй Чэхіі, дзе спачывае прах Францішка Скарыны. Для нас з'яўляецца святым і ўсё тое, што звязана ў Падуі з імем беларускага першадрукара і асветніка. Вось чаму з такім хваляваннем і радасцю мы сёння знаходзімся тут, у сусветна вядомым Падуанскім універсітэце, дзе некалі ступала нага Скарыны, моцна гучаў яго малады голас, адбылася ўрачыстасць атрымання ганаровага звання доктара медыцыны.

Што ўяўляў сабою Падуанскі універсітэт у XV—XVI стагоддзях? Нам уяўляецца, што ў гэты час ён далёка апярэджваў іншыя італьянскія універсітэты, не выключаючы і знакамітай Балонні, і зрабіўся сапраўдным «сусветным светачам», адным з найбольш важкіх міжнародных і культурных асяродкаў. У той жа час Падуанскі універсітэт быў тыповым італьянскім універсітэтам, які прынцыпова адрозніваўся ад іншых заходнееўрапейскіх навучальных устаноў, у першую чаргу ад Сарбоны.

У Парыжы —багаслоўе, прафесарскае кіраўніцтва, напалову кляштарнае жыццё «ў бурсах», непарушнасць аўтарытэтаў; у італьянскіх універсітэтах, перш за ўсё ў Падуі і Балонні, — вывучэнне права, студэнцкае кіраўніцтва, жыццё на вольных кватэрах, свабода ў вывучэнні і выкладанні. Глыбокая розніца абодвух тыпаў, урэшце, выявілася ў адносінах да чужакоў і чужаземцаў. Толькі італьянскія універсітэты прымалі іх, пры гэтым з самага пачатку — на аднолькавых правах. Найбольш «італьянскім» універсітэтам быў Падуанскі, чым і тлумачацца хуткія і няўхільныя яго поспехі.

Другая, не менш важная прычына — сувязь яго з Венецыяй, хутчэй за ўсё залежнасць ад яе. Пасля доўгай і ўпартай барацьбы Венецыя ўсё ж здолела заўладаць «Сухазем'ем». Для Венецыі альтэрнатывы не было: «Сухазем'е» —гэта не столькі пытанне ўлады, колькі хлеба і транспартных камунікацый.

Гэтыя падзеі далі магчымасць атрымаць з Венецыі значныя фінансавыя асігнаванні. Гуманіст Мазагайя праз дзесяць год пасля далучэння Падуі да Венецыі прыходзіць у захапленне ад тых «нечуваных шчодрасцей», якія пасыпаліся на Падуанскі універсітэт. Ён атрымаў стары палац падуанскіх герцагаў Карар, якіх скінула Венецыя, а ў 1468 годзе — статут «дзяржаўнага». Усё гэта дало магчымасць яму хутка ператварыцца ў прызнаны цэнтр гуманізму, рэнесансу, талерантнасці. У 1497 годзе тут была заснавана кафедра па вывучэнні твораў Арыстоцеля. Выкладаецца грэцкая, яўрэйская і арабская мовы. Пашыраецца і ўмацоўваецца авераізм, прыхільнікам якога быў і Скарына. Сюды, у Падую, накіроўваюцца сотні студэнтаў практычна з усіх краін, і больш за ўсё з Германіі (па некаторых даных,— да 59 працэнтаў ад колькасці іншаземных студэнтаў). Ідэі і творы М. Лютэра пранікаюць сюды так моцна, што ў данясенні ў Ватыкан ад 26 лістапада 1521 года падкрэсліваецца наступнае: «Зараза гэтая настолькі пашырылася ў Падуі, што няма ніводнага адукаванага чалавека, які б не быў лютэранцам». Невыпадкова пасля паражэння вялікага сялянскага паўстання 1525 года адзін з яго правадыроў, Міхайла Гэйсмайр, быў вымушаны ўцякаць з Зальцбурга, але спакойна жыў у Падуі.

Прыцягальнымі для еўрапейскай моладзі былі славутыя постаці універсітэцкіх выкладчыкаў. Імі былі падуанскія светачы — Піліпо Дэчыо, дэй Сочыні, Франчэска Курсіо, Антоніо Россі, Марко Мантуа Бэнавідэс, Тыбэрыо Дэчыяно, Джованні Чэфале, Франчэска Мантыка, Джакомо Мэнокіо, Гвідо Панчыролё. Не будзем забываць, што амаль два дзесяцігоддзі ў якасці прафесара матэматыку тут выкладаў Галілей. Прафесар Джыролямо д'Аквапондонтэ практычна закончыў распрацоўку тэорыі цыркуляцыі крыві, якую потым дапрацаваў (але не «адкрыў», як гэта часта сцвярджаецца) англійскі навуковец Гервей.

Варта, урэшце, прыгадаць некалькі імён славутых выхаваўцаў Падуі —Піко дэлла Мірандоля, Франчэска Гвічыардзіні, Пандольфа Коленчыё, Гвідо Панчыролё (ён жа потым і прафесар), П'етро Бэмбо, Джавані Навіцыяна; пап і кардыналаў (Аляксандр VIII, Франчэска дэлла Ровер́э —ён жа Папа Рымскі, Сікстцін IV, Сарпі), каралёў (Ян Сабескі, Густаў Шведскі, Стэфан Баторый), паэтаў і драматургаў (Ян Каханоўскі, Піліп Сідней, Таркавата Таса, Лёдавіка Арыёста). З Падуанскім універсітэтам звязаны асобы Тамаза Кампанелы, Эразма Ратэрдамскага, Мікалая Каперніка і іншых, што праславілі эпоху Адраджэння. Асаблівай увагі заслугоўвае прадстаўніца прыгожай паловы чалавецтва Алена Лукрэцыя Карнара Піскапія, якая ў 1678 годзе атрымала ў Падуанскім універсітэце ступень доктара філасофіі і такім чынам была першай жанчынай, якая атрымала універсітэцкую адукацыю. Варта назваць і Пятра Поснікава, выхадца з Расіі, які першы з рускіх атрымаў ступень доктара медыцыны (1694 г.).

Такія славутыя імёны і традыцыі спараджалі і новыя кнігі. Мы глыбока перакананы, што ў Падуанскім універсітэце добра ведалі выданні славутага венецыянскага друкара Альда Мануцыя, які зрабіў цэлую «рэвалюцыю» ў кнігадрукаванні, рашуча перайшоўшы на фармат, які быў найбольш зручным для людзей, зрабіў кнігу сапраўды даступнай. Невыпадкова Скарына выбраў для «Малой падарожнай кніжкі», выдадзенай у 1522 годзе ў Вільні, менавіта такі невялікі фармат. Прыгадаем, дарэчы, што Эразм Ратэрдамскі сказаў аб друкарскім знаку Альда Мануцыя (дэльфін, які абвіўся вакол якара, — сімвал рухомасці), што ён «мае большае значэнне, чым імператарскі герб на манетах».

Пасля ўсяго сказанага ці варта здзіўляцца, чаму менавіта ў Падую накіраваўся наш славуты зямляк. Упэўнены, што гэта было невыпадкова, гэта быў асэнсаваны выбар.

Як быў сустрэты ў Падуі беларускі юнак? Што адбылося тут у прыкладна такія ж кастрычніцкія дні 1512 года? Давайце дадзім слова сярэдневяковаму летапісцу, давайце паслухаем яго:

**ЕЗУС МАРЫЯ ПРЫСВАЕННЕ ЗВАННЯ У ГАЛІНЕ МЕДЫЦЫНЫ, З ЛАСКІ БОЖАЙ, МАГІСТРУ ФРАНЦЫСКУ, РУСІНУ, СЫНУ НЯБОЖЧЫКА ПАНА ЛУКІ**

**У імя Хрыста, амін. У год ад яго нараджэння тысяча пяцьсот дванаццаты, індыкта XV, у пятніцу, пятага лістапада, у Падуі, у храме святога Урбана а гадзіне 17-ай на скліканай і ў звычайным парадку сабранай святой Калегіі слаўнейшых падуанскіх дактароў мастацтваў і медыцыны па даручэнні найдастойнейшага доктара мастацтваў і медыцыны пана Тадэя Мусаці, віцэ-прыёра вышэйназванай Калегіі, са згоды радцаў указанай Калегіі, ва ўводным слове прыёр сказаў: «Найдастойнейшыя паны дактары! Прычына склікання Вашых дастойнасцей наступная: прыбыў нейкі вельмі вучоны малады чалавек, доктар мастацтваў, бедны родам з надзвычай далёкіх краёў, магчыма, на чатыры тысячы міляў і больш ад гэтага слаўнага горада, для таго, каб узвялічыць славу і бляск Падуі, а таксама красуючай супольнасці філасафаў гімназіі і святой нашай Калегіі. Ён звярнуўся да Калегіі з просьбай дазволіць яму ў якасці дару і асобай міласці падвергнуцца, з ласкі божай, выпрабаванням у галіне медыцыны пры гэтай святой Калегіі. Калі, Вашы дастойнасці, дазволіце, прадстаўляю яго самога. Малады чалавек і вышэйзгаданы доктар носіць імя пана Францыска, сына нябожчыка Лукі Скарыны з Полацка, русін».**

**Пасля гэтага запрасілі магістра Францыска, і ён пакорліва і ветліва прасіў, з ласкі божай, дапусціць яго да выпрабаванняў па медыцыне, як было вышэй сказана выступаўшым раней панам віцэ-прыёрам. Ён абяцаў шырыць усюды славу, гонар і карысць гэтай Калегіі і кожнага з дактароў паасобку.**

**Пасля гэтых слоў Калегія прыступіла да абмеркавання і апытвання яго. Вышэйзгаданы пан віцэ-прыёр сказаў: «Паны дактары, Вы выслухалі гэтага беднага і вучонага юнака. Калі хто-небудзь хацеў бы што-небудзь сказаць, няхай устане і скажа, дапоўніць яго». І нарэшце, пасля шматлікіх прамоў і выказванняў гэтых паноў дактароў, пан віцэ-прыёр сказаў асобам ніжэйназваным галасаваць такім спосабам, а іменна: «Хто згаджаецца, каб гэтаму пану Францыску надаць, з ласкі божай, медыцынскую годнасць пры захаванні ўсіх патрабаванняў, хай кіне свой голас у урну пацвярджальную, чырвоную; хто не згаджаецца, хай кіне ў адмоўную, зялёную». І праведзенае такім чынам галасаванне не дало ніводнага голасу супраць».**

І яшчэ адно выпрабаванне.

**«Асобы экзамен па медыцыне пана магістра Францыска, русіна. 1512 (год), у аўторак, дзевятага лістапада, ва ўстаноўленым месцы Епіскапскага палаца ў Падуі.**

**Ён праявіў сябе настолькі слаўна і дастойна ў час гэтага свайго строгага экзамену, калі выкладаў адказы на зададзеныя яму пытанні і калі абвяргаў прапанаваныя яму доказы, што атрымаў аднадушнае ўхваленне ўсіх прысутных вучоных без выключэння, і было прызнана, што ён мае дастатковыя веды ў галіне медыцыны».**

І ў рэшце рэшт дастойны фінал:

**«1512 (год), індыкта XV. У аўторак, 9 лістапада месяца. Асобы экзамен у галіне медыцыны знакамітага мужа пана магістра Францыска, сына нябожчыка пана Лукі Скарыны з Полацка, русіна, сакратара караля Дацыі. У прысутнасці архіепіскапа яснавяльможнага пана суфрагана і вікарыя славутая Калегія паноў (майстроў), мастацтваў Падуі пры ўдзеле дастойнага мастацтваў і медыцыны доктара пана магістра Францыска Фуманэлі, віцэ-рэктара універсітэта (майстроў) мастацтваў экзаменавала. Усе былі аднадушныя і згодныя, без ніводнага голасу супраць, каб годнасць (Скарыны) у галі-**

(Працяг на стар. 14).

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# І АПОРА, І ПРЫКЛАД, І КРЫНІЦА НАТХНЕННЯ...

Якуб Колас — з'ява ў духоўным жыцці беларускага народа незвычайная, непаўторная і, я сказаў бы, неабсяжная, З'ява, якую не ахапіць і самым шырокім паглядам, ва ўсе глыбіні якой не пранікнуць і самым праніклівым узіраннем. Для кожнага наступнага пакалення чытачоў ён будзе адкрывацца па-новаму — і шырэй, і глыбей, — па меры таго, як будзе шырыцца і паглыбляцца нацыянальна-гістарычная самасвядомасць беларускага народа, ці інакш кажучы — па меры таго, як Беларусь будзе ставіцца Беларуссю.

Якуб Колас — не проста вялікі мастак слова, а вялікі мастак-мысліцель, для якога і стварэнне малюнкаў-вобразаў, і лепка характараў, і канструяванне сюжэтаў мелі сэнс толькі таму, што ўсё гэта было падпарадкавана спасціжэнню і раскрыццю духоўнага свету чалавека, сацыяльных і маральна-псіхалагічных заканамернасцяў развіцця грамадства, высвятленню, так бы мовіць, «таямнічых» ходаў гісторыі наогул і гісторыі свайго народа ў прыватнасці.

Якуб Колас — не проста выдатны, высокааўтарытэтны ў вачах чытачоў пісьменнік, а пісьменнік — Педагог (з вялікай літары), пісьменнік — Настаўнік нацыі. Гэта надзвычайная роля была яму забяспечана не толькі яго магутным талентам, але і тым, што ён быў дасканалым знаўцам народнага жыцця і побыту, асаблівасцяў светаўспрымання і псіхалогіі беларусаў, а таксама яшчэ і тым, што яму вельмі хацелася паспрыяць, дапамагчы свайму заняволенаму, няшчаснаму народу выйсці на шырокі прастор гістарычнай жыццядзейнасці. Не адмаўляючы і рэвалюцыйных сродкаў абнаўлення рэчаіснасці, жаданага вырашэння лёсу Бацькаўшчыны, ён хацеў бы, аднак, дасягнуць гэтага перш за ўсё спосабамі цывілізаванай культурна-асветніцкай працы — ён належаў да плеяды асветнікаў-гуманістаў, якіх эпоха гвалтоўных рэвалюцыйных ломак таксама ламала і нявечыла, асуджала на страшэнныя маральныя пакуты.

У беларускай літаратуры Якуб Колас— постаць, якая ніколі ў сваёй эпічнай веліччы нікому не ўступіць першынства, якімі б геніяльнымі ні былі эпікі, што прыходзілі і будуць прыходзіць пасля. Так распарадзілася сама гісторыя, у якой ён заняў сваё асобае месца. Тое, што зрабіў у нашай літаратуры Якуб Колас, — застаецца недасягальным назаўсёды. І рэч не ў тым, што яго наступнікі і паслядоўнікі менш таленавітыя. Рэч у тым, што ён быў першы, хто ахапіў душой увесь неабдымны свет беларуса, хто пранік у гэты свет на ўсю глыбіню, у ва ўсе яго куткі і закуткі.

Як і Янка Купала і Максім Багдановіч, Якуб Колас прыйшоў у жыццё, каб сказаць: «Вось мы — беларускі народ! Вось у чым наша веліч і несмяротнасць. Вось наш нацыянальны геній, без якога ты, вялікі свет, быў бы нашмат бяднейшы. А таму, расступіцеся, пасуньцеся трохі, мілыя суседзі, мы зоймем сваё пад гэтым небам месца. Сваё месца ў бясконцай гісторыі чалавецтва. Мы маем на гэта месца права». Усё гэта ў творчасці Якуба Коласа сцверджана, паказана і даказана бліскуча: хто мы, і што мы і за што нас трэба паважаць у свеце.

Прыйшоў час прачытаць Якуба Коласа нанова. Зрэшты, кожная эпоха сваіх вялікіх мастакоў слова прачытвае нанова і па-новаму. Коласа, нягледзячы на безліч даследчыцкіх прац, яму прысвечаных, яшчэ не прачыталі па-сапраўднаму не толькі літаратуразнаўцы, але і філосафы, і эканамісты, і палітыкі. Зразумела, гэта і нялёгка зрабіць, бо перад намі глыба, у якой — мудрасць і духоўны вопыт цэлага народа. Сённяшняе прачытанне Якуба Коласа дасць магчымасць у многім па-іншаму глянуць на жыццё, на лёс, на гісторыю беларусаў, лепш і глыбей зразумець іх душу, характар, светапогляд, адчуць і ўбачыць найвялікшы цуд, створаны геніем народа — яго мову.

Коласа трэба перачытваць усяго цалкам — усю творчасць ад пачатку да канца. Але ў першую чаргу — трэба перачытаць яго вялікі эпас: звод паэм «Новая зямля» — рэч, унікальную ў сусветнай літаратуры, паэму «Сымон-музыка», яго мудрыя «Казкі жыцця», яго палескія аповесці.

Трагедыя Коласа, як і трагедыя Купалы, як і трагедыя ўсіх іншых вялікіх нашых мастакоў слова — у тым, што іх не толькі збівалі з тропу, не давалі сказаць сваё слова на ўсю моц і глыбіню, але і сказанае імі, сказанае своечасова, у пару і свабодна, перакручвалі, тлумачылі, падавалі так, што і ні вялікага мастака не бачна, і ні вялікага мысліцеля не чутна, і наогул незразумела, чаму ў падручніках пішуць вялікі, чаму народны, чаму выдатны і г. д.



Якуб КОЛАС. 1952 г.

Доўгія дзесяцігоддзі ідэалагічная зашоранасць не дазваляла бачыць усю жыццёвую сілу, усю глыбінную мудрасць рэчаў, якія толькі што названы,— гэтаксама як і яго вершаў, апавяданняў, шматлікіх твораў для дзяцей. Асабліва ўважліва трэба перачытаць «Новую зямлю». Як ніколі раней яна павінна сёння быць настольнай кнігай кожнага беларуса. Гэта — самая вялікая кніга ў беларускай літаратуры, — не аб'ёмам, зразумела, а вагой зместу, паэзіі, думак. Не ўяўляю працэсу нашага нацыянальнага адраджэння без удзелу ў ім такіх твораў, як «Новая зямля». Бо што значыць нацыянальнае адраджэнне? А значыць гэта, што нам трэба ўратаваць перш-наперш сваю родную мову, аднавіць сваю ўласную гісторыю, падняць на належны ўзровень сваю нацыянальную культуру, даць шырокі прастор беларускай школе і беларускай кнізе, ажывіць здаровыя народныя традыцыі і звычаі, — адным словам, зрабіць так, каб жыццё беларускага народа на Беларусі працякала ў паўнакроўных нацыянальных формах. Так, як яно працякае ў «Новай зямлі» Якуба Коласа. Там — усё, ад першага да апошняга радка, — наша, беларускае. Там усё — і духам, і зместам — Беларусь. Сама сапраўдная жывая Беларусь! Самабытная і не стылізаваная! На гэтай кнізе можна беспамылкова распазнаць усё тое, чым вызначаецца беларускі народ у вялікім свеце нацыянальна-этнічных супольнасцяў. І, вядома ж, усё тое, чым мы абавязаны даражыць, што мы не павінны страціць, калі хочам застацца сабою, беларусамі, народам са сваім уласным абліччам.

Што гэта «ўсё тое» — пералічыць, бадай, намагчыма, як немагчыма пералічыць, перабраць паасобку ўсе дарэшты —і вялікія, і самыя дробныя — з'явы-праявы жыцця. Вазьміце, напрыклад, узаемадачыненні герояў паэмы — Міхася і Антося між сабою, адносіны іх абоіх да Ганны, адносіны ўсіх дарослых да дзяцей і дзяцей да дарослых, суседская ўзаемадачыненні, адносіны да прыроды, да зямлі, да працы, да народных свят, абрадаў і звычаяў і г. д., і г. д., і г. д. Колькі ва ўсім гэтым павучальнага і каштоўнага — таго, што нам так патрэбна сёння? Бо мы адраджаем не толькі мову, не толькі гісторыю, не толькі культуру, але і сам дух беларускасці, падвергнуты гвалтоўна-гібельнай эрозіі часу, і сам беларускі лад, калі хочаце — беларускі стыль жыцця, адрынуты і занядбаны манкуртамі, здрадаваны і зацёрты архараўцамі, дзікунамі-вандаламі атамна-касмічнай эры. У гэтай нашай вялікай, цяжкай і пакутлівай адраджэнскай працы Якуб Колас для нас—і надзейная апора, і высокі прыклад, і крыніца творчага натхнення.

Калі б мы чыталі і перачытвалі яго штодзённа — як і яго вялікіх сучаснікаў і паплечнікаў — нашы справы, справы дзяржаўнага станаўлення маладой незалежнай Беларусі напэўна былі б сёння намнога лепшыя. Бо гэтаму станаўленню катастрафічна не хапае нацыянальнага грунту, яно не прасякнута ў неабходнай меры — усюды і скрозь — адзінаю аб'ядноўчаю беларускаю ідэяй. Ідэяй, якой прысвяціў даастатку ўсё сваё вялікае жыццё Ён — Якуб Колас.

**Алег ЛОЙКА**

# ЛЮБІМЫ, НАРОДНЫ, ВЕКАВЕЧНЫ

Якуб Колас — у сваёй геніяльнай прастасці, беларускасці — адзіны, непаўторны. Рэалістычны, даступны, ён—свойскі, непрэтэнцыёзны. О рамантычнейшы Янка Купала! О паэце чыстай красы Максіме Багдановіч! О глыбачэзнейшы аналітык душы беларускай Максіме Гарэцкі! З вас і з яго пачыналася наша беларуская літаратура XX стагоддзя, але, можа, з яго, з Якуба Коласа, пачыналася найбольш франтальна, найбольш усенародна. Якуба Коласа — ён як бы другі, братні, наступны — Купала нібы зацьмявае. Але — дарма: ні зацьмяванне, ні саперніцтва, адно што раўналегласць беларускасці, дапаўняльнасць, роўнасць менавіта народнасці, таленту, гістарычнай ролі ў лёсе нацыі, народа.

Прычым, Якуб Колас несумненна аказаўся, стаў, быў, застаецца больш блізкім чалавеку штодзённаму, з масы. Купала — элітарны, бо рамантычны, бо надзвычай метафарычны, сімвалічны, асацыятыўны. Колас-лірык пачынаўся са свайго першага друкаванага верша, з першага радка гэтага верша: «Край мой бедны, край мой родны...» Той жа празрыстасцю, звычайнасцю, непасрэднасцю поўніліся ранняя проза Якуба Коласа, першая вялікая паэма «Новая зямля». Якраз звычайнасць вымовы ва ўсім у Коласа падкупляла і прадаўжае падкупляць, захапляць чытача, адрасата. А што запалоньвае ў Коласа не толькі простасць, але і складанасць, гэтае многім з нас дасюль і няўцям. Бо сапраўды звычайнае, простае ў Якуба Коласа часта толькі нібы звычайнае, нібы простае. Якуб Колас, як і Янка Купала, элітарны, толькі што на іншы лад, у іншай плоскасці. Простае ў Якуба Коласа — мудрае, немудрагелістае, неэкстазнае. У ім, як тое даўно ўжо было заўважана Алесем Адамовічам, усе колеры вясёлкі, — дзённае свята, само бясколернае, бы з колераў, з сяміступжкавага спектра. І ў выніку ўвідочніць коласаўскую прастату, народнасць, паэтычнасць сапраўды няпроста. Няпростая простасць — гэта, відаць, у красе, у літаратуры найвышэйшае і, можа, якраз найвышэйшай пробы элітарнае, паэтычнае.

Я люблю Якуба Коласа, бо не магу не любіць самога сябе. І не пра сябелюбства ці эгаізм тут размова, — размова пра сябе як чалавека, які мае сэрца, душу, дух; чалавека, грудзі якога ўсё гэта змяшчаюць; чалавека, які носьбіт жыцця, якога нельга не любіць. Але маё жыццё, дух мой, душа мая — яны мне не толькі дадзеныя і блізкія, як дыханне маё мне блізкае. Яны ўва мне фарміраваныя, сфармаваныя. І якраз Якуб Колас больш за ўсё іх творца — Якуб Колас з першых маіх чытанак, са школьнай лавы, са студэнцкай маёй лавы. Бо гэта цераз яго я свет успрымаю, адчуваю, цераз яго — з яго чуллівымі словамі — край свой люблю, і ўсё ў душы, дзе ні еду, дзе ні іду,паўтараю:

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасць мая...

І смуткую я менавіта па-коласаўску:

Нікла жыццё ў цёмным лесе,
Агаляўся твар Зямлі,
І ляцелі ў паднябессі
З сумным крыкам жураўлі.

І радуюся я духам сваім жыццю па Коласу:

Быў якраз пачатак мая,
Нуй была тады вясна,
Вось такая, што бывае,
Можа, ў сотні год а...а!

Ад гэтага — не ўцякчь. Гэта ў душы — навечна, да скону. Але ці ж толькі ў маёй душы яно трымціць? Ці не ўласна беларускае, народнае, векавечнае яно выяўляе, да яго менавіта са словамі Якуба Коласа на вуснах кожнага з нас, з беларусаў, далучае? Коласавай любоўю да роднай зямлі любоў ягоных герояў сапраўды да яе народжана, як і музычнай паэзіяй Якуба Коласа спароджвана нашая эмацыянальнасць; нашыя смутак і радасць...

Як вядома, новага прачытання патрабуе сёння ўся беларуская літаратура: і старабеларуская, і новая, асабліва так званая савецкая. Вялікія з'явы ў літаратуры шматзначныя, бо мастацкі вобраз заўсёды шырэй суб'ектыўна аўтарскіх задумы і намераў, і нават спароджанае кан'юнктурай сваёй аб'ектыўнай існасцю можа перасягаць зададзенасць, тэндэнцыйнасць. Дый не толькі з нарматыўных установак і кан'юнктуры спараджаліся творы і ў беларускай літаратуры савецкага часу, бо падцэнзурная літаратура заставалася яшчэ і полем, у якое ў розныя перыяды па-рознаму праскоквала і тое, што не магло задавальняць стражаў вульгарна-сацыялістычных догмаў і запатрабаванняў сацрэалізму. Асабліва ж новага перачытання патрабуе зашмальцаванае, адрынутае і скаверканае ў новай беларускай літаратуры вульгарна-сацыялагічнымі крытыкамі і партыйна-афіцыйнай пазіцыяй. А творчасць Якуба Коласа, як і Янкі Купалы, звязаная ў XX стагоддзі і з дарэвалюцыйным дзесяцігоддзем і з усёй першай яго паловай, зазнала як фальсіфікацыю, схематызацыю, так і замоўчванне. Так што адной з самых першых задач сённяшняга коласазнаўства з'яўляецца проста франтальны перагляд ацэнак, патрабуецца проста цалкам новае канцэптуальнае прачытанне Якуба Коласа як вялікага нацыянальнага паэта.

(Працяг на стар. 6—7).



Урочышча Дубы. Свята паэзіі, прысвечанае Я. Коласу. 1974 г.

Яўген ХВАЛЕЙ

# ШЛЯХ КОЛАСА

**ў драўляных скульптурах на радзіме песняра**

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!

Я. КОЛАС.

Акінчыцы... Выток... Пачатак...
«МАДОННА-МАЦІ»... Вечнасць часу,
Жыцця, што, як рака, сплывае
І ў вусце памяці ўпадае.
Мне за «Мадоннай» бачна Ганна,
Яе ўлюбёнасць, закаханасць,
Яе ахвярнасць і цярпенне,
За дзетак, за жыццё маленне.
І тая хата пры гасцінцы
Здаецца помнікам ёй сціплым.
«ВЫТОКІ» — постацяў лік ціхі:
Цясляр-разьбяр, дудар, ткачыха —
Народа сімвалы і докі,
Рамёстваў прашчураў вытокі.
Стары дзядуля над слупкамі —
Не «СТАРАЦ», а жывая памяць,
Легенда змрочная пра Стоўбцы:
Быў манастыр, быў мор...
Тры «стоўбікі»...
Сасна, бяроза, чорны ельнік —
Сцяга жыцця новазямельцаў.
«Падгляды пчол», «Касец», «Рыбак» —
Што ні скульптура — вечны знак.
Альбуць — і «РАНІЦА У НЯДЗЕЛЬКУ»!
«ЗВАНАР» — як голас праўды, волі,
Як той вобраз лепшай долі.
Што ні радкі — то гукі-зыкі...
Ах, Сымоне, ах, Музыка!
Чароўнай музыкі «ПЯШЧОТА» —
І кветка-папараць употай
Цвіце ў бары, цвіце ў лагчынах,
Сарвуць яе юнак, дзяўчына.
Не здолелі Андрэй, Ядвіся
Загадкай-кветкай падзівіцца...
На бераг выйшаў «БАЦЬКА-НЁМАН»
У вобразе, усім знаёмым,
Вадзяніка. Рыбак і човен —
Ці не Антось! Плыві, Антоні,
У час мой, будучыню вечна,
Пакуль жыве род чалавечы!
Гляджу пільней... У «Бацьку-Нёмне»
Міхала бачу — вусам цёмны.
Яго пастава сярод бору,
Яго тут радасць, боль і гора...
Ён быў ляснік, а сніў зямельку,
Зажыць з Антосем на ёй меўся.
Калі б у дзень мой завіталі,
Напэўна б, фермерамі сталі...
«АСВЕТНІК» — ён жа Лабановіч,
Глядзіць у даль, заўсёды новую...
Ліхтар узняў, дзяўчынка з кнігай —
Яго надзея свеціць знічам.
«ДРЭВА ЖЫЦЦЯ» каля Мікуціч —
Вянец сцяжыны ў родным куце.
Дачка, унук, сама бабуля —
Выток жыцця, працяг і будучыня,
І вера, што твары не марна —
Святая Коласава мара.
Сучаснік мой, адчуй душою,
Прайшоўшы гэтаю зямлёю,
Радкі падказаныя ёю:
Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,
Ад казак вечароў,
Ад песень дудароў,
Ад светлых воблікаў закінутых дзяцей,
Ад шолаху начэй,
Ад тысячы ніцей,
З якіх аснована і выткана жыццё
І злучана быццё і небыццё, —
Збірайся скарб...

Мікола МАЛЯЎКА

# ДЗЯДЗЬКА ЮЗІК

Памяці
Іосіфа Міхайлавіча Міцкевіча —
брата Якуба Коласа.

Сцежка на падворку то вузее,
То зусім знікае ў снегапад:
Стала хата дзядзькава музеем,
А зайцы ўзялі ў арэнду сад.
Памяць, затуманеная скрухай,
Праясніцца, як вада ў рацэ.
Бачу дзядзьку з сеткаю-таптухай,
Бачу дзядзьку з вудай у руцэ.
Сэрца цешыць раніца святая,
Шчупакоў цягае —
І пытае:
«Ці дзе на свеце ёсць такая,
Як Нёман, рачанька другая?..»
Ён і жыў пры Нёмане заўсёды,
Палюбіўшы змалку гэты кут,
І было ў ім штосьці ад прыроды,
Мудрай, шчодрай і прыгожай тут.
Захавальнік коласаўскай спадчыны,
Дзядзька Юзік сам без слова смяг:
Ведаў ён паэмы ўсе на памяць,
Ведаў і агучваў іх, як маг.
Постаці герояў, ім разбуджаных,
Ціха набліжаліся здаля —
І кругом, у Смольні і ў Альбуці,
Ажывала «Новая зямля».
А дзяцей прыводзіла дарога —
Рады быў і тут, каля ракі,
Пра сябе, далёкага, малога,
Ён чытаў пацешныя радкі.
«А гэты Юзік-шаляніца,
Малы яшчэ, зусім дурніца,
Так пад нагамі і таўчэцца
Або, як хвост той, валачэцца
І ад работы адрывае
І толькі сэрца ад'ядае...».
Запрашаў гасцей і ў сад, і ў хату,
Частаваў ён, добрая душа,
Яблыкамі, з кроны неба знятымі,
Малаком блакітным з гладыша.
«Ці падобны вы хоць чуць на брата!»—
Хадакі пыталіся ўсур'ёз.
І ўсміхаўся дзядзька хітравата:
«Не ўтаю, такі ж вялікі нос!..»
Гаспадар разумны, моцны духам,
Дзядзька Юзік без работы сох.
Бачу, як ідзе яшчэ за плугам,
Бачу, як вяршыць у лузе стог.
Над яго магілай хвоі тужаць,
Кружыць бусел, ім любімы птах,
І не чорнай, а блакітнай стужкай
Нёман лёг навечна ў галавах.

Мечыслаў ШАХОВІЧ

# АКІНЧЫЦЫ

Мох — як пуховая пасцель.
Адсюль да Коласа — так блізка...
Схіліўся нізка журавель,
Нібы паэтава калыска.

Вітае лес, як добры дзед:
Тут сосен Коласа нямала.
А, можа, ўбачу даўні след —
След палясоўшчыка Міхала!

Куточак памяці жывой,
Нібы святыню, помніць буду.
Ці не знайду я пад страхой
Старую Костусеву вуду!..

А можа, там ляжыць яшчэ,
Ля пуні, бацькава папруга!
А Нёман-бацька ўдаль цячэ,
Дзе сінеч неба, водар луга.

Чытаю «Новую зямлю»:
«Дарэктар», Костусь і «начаткі»...
Здаецца, ў хату крок ступлю —
Запахнуць здорам там аладкі,

Запахне дроў салодкі дым,
І «шаляніца» скокне з печы...
Нібы я з Коласам самім
Прыйшоў на першую сустрэчу.

У НАШЫМ ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВЕ пра аповесці «Адшчапенец» Я. Коласа (1930) і «Лявон Бушмар» К. Чорнага (1929) выказана багата слушных і праніклівых думак. Аднак менавіта той іх сэнсавы пласт, дзе мастацкая думка аднаго і другога пісьменніка настойліва шукае сілу, якая магла б унесці ў жыццё па-сапраўднаму дзейсны гуманістычны струмень духоўнага і сацыяльнага абнаўлення, яшчэ пакідае для крытыка і літаратуразнаўца шмат пытанняў.

Творы гэтыя, безумоўна, у многім супярэчлівыя, у мастацкіх адносінах няроўныя. У вонкавым сюжэтным дзеянні тут усё ж падтрымліваецца афіцыйная лінія, скіраваная на калектывізацыю аднаасобніцкіх гаспадарак. Пераважна на гэтую знешнюю (і, трэба сказаць, найбольш слабую ў мастацкім сэнсе праяву пісьменніцкага слова) наша крытыка доўгі час і звяртала сваю ўвагу. Адразу скажам, што дзеля аб'ектыўнай ацэнкі ні ў якім разе нельга абмінаць і гэту досыць шырокую плынь сюжэта. Пры гэтым нашы выдатныя майстры слова Я. Колас і К. Чорны і ў дадзеным выпадку, як нам здаецца, не маюць ніякай патрэбы ў тым, каб іх неяк штучна выгароджваць і апраўдваць.

Час сапраўды паклаў свой адбітак на аповесці «Адшчапенец» і «Лявон Бушмар». Рэальны драматызм жыцця і рэальныя канфлікты рэчаіснасці падчас тут яўна згладжваюцца. Аднак ёсць у гэтых творах звонку малапрыкметная, падводная частка айсберга—унутраны сюжэт, сатканы з дэталяў, падрабязнасцей, з глыбокім і шматзначным падтэкстам эпізодаў, як бы паміж іншым сказаных слоў, заўваг і г. д. Менавіта тут, як здаецца, выяўляецца глыбокі аўтарскі боль, трывога і клопатнае імкненне дапамагчы селяніну выстаяць, не зламацца ў той нялёгкі час, калі вельмі паспешліва і нярэдка з нейкай жорсткаю асалодаю разбураліся, рушыліся і руйнаваліся векавечныя асновы яго жыцця.

Разглядаючы аповесці «Адшчапенец» і «Лявон Бушмар», мы ў любым выпадку не павінны залішне адрывацца ад галоўнай стрыжнявой праблемы гэтых твораў і такой яе грані, як селянін і зямля, чалавек і калектывізацыя. Але ва ўсякім таленавітым мастацкім творы пэўная і канкрэтная праблема звычайна выходзіць сваёю змястоўнасцю з вузкага сюжэтна-фабульнага поля на больш шырокую і часта эпічна-універсальную ўзаемасувязь з іншымі жыццёвымі пытаннямі.

Такую энергію змястоўнасці нясуць у сабе названыя аповесці. Апрача той лейтматыўнай праблемы, пра якую мы тут гаварылі, абодвух пісьменнікаў цікавіць яшчэ і заглыблены паварот яе да такіх пытанняў, як выяўленне ўнутранай падрыхтаванасці (ці непадрыхтаванасці) чалавека думаць, дзейнічаць і прымаць самастойныя рашэнні ў складаных і пасвойму, можа, нават экстрэмальных побытавых і гістарычных абставінах, шмат у чым нязвыклых для яго варунках жыцця.

Само імкненне выхаду пісьменніцкай думкі на такі шлях даследавання рэчаіснасці не было выпадковым і з'яўлялася востраю, злабадзённаю патрэбаю часу. Гэта быў не толькі водгук на падзеі калектывізацыі.

Найбольш артадаксальнае адгалінёнее ў беларускай (і не толькі ў беларускай) літаратуры настройвалася, як вядома, на хвалю панегірычных гімнаў абставінам і ўсякай іншай вонкавай рэвалюцыйна-валявой сіле, якая нібыта за кароткі прамежак часу здольна была карэнным чынам па-новаму перарабіць, пераўтварыць рэчаіснасць і на якасна новую ступень духоўнасці ўзняць самога чалавека. Законы эвалюцыі звычайна адсоўваліся тут на задні план.

Сілу такога «перавыхаваўчага» ўздзеяння, паводле розных тэорый і асабліва паводле так званай тэорыі класавай барацьбы, найперш трэба было скіраваць на селяніна, у душы і псіхалогіі якога нібыта моцна засеў дробнабуржуазны інстынкт індывідуаліста-ўласніка.

Адсюль і з'яўленне такой вялікай колькасці самых розных «настаўнікаў», што прапаноўвалі свае паслугі вучыць і павучаць селяніна, як яму жыць на гэтым белым свеце. Вучылі яго піянеры і камсамольцы, розныя інструктары і ўпаўнаважаныя. Вучылі і пераконвалі ў перавагах калектыўнага ладу жыцця над аднаасобніцкім цэлая армія рабочых-дваццаціпяцітысячнікаў. Такую ролю бралі на сябе і многія пісьменнікі. І нярэдка пісьменнікі, якія прэтэндавалі на непахісны не толькі мастацкі, але і маральны аўтарытэт у межах усёй тагачаснай савецкай краіны, хоць рэальнае жыццё селяніна і яго псіхалогію ведалі слаба.

Вось, напрыклад, толькі адно з выказ-

**Васіль ЖУРАЎЛЁЎ**

# ХТО Ж ТЫ ТАКІ, СЕЛЯНІН?

## Старонкі класікі: новае прачытанне

ванняў М. Горкага: «Калі мужык з сваёй пшаніцай знікне, гараджанін навучыцца яе рабіць у лабараторыі. Творчая праца—рэвалюцыйная, праца збіральніка—кансерватыўная». Так суцішаў М. Горкі вядомага крытыка А. Варонскага, які выказаў непакой з прычыны голаду ў многіх вёсках і катастрафічным пагаршэннем там жыцця.

І гэта меркаванне М. Горкага не было выпадковым. Яно вынікала, калі можна так сказаць, з канцэптуальных і даволі ўстойлівых уяўленняў пісьменніка аб селяніне як чалавеку недалёкім, духоўна абмежаваным, гатовым нават без дай прычыны забіць добрага чалавека, як гэта ледзь-ледзь не зрабіў герой апавядання «Чалкаш», скнарлівы і азлоблены, паводле горкаўскага вызначэння, сялянскі хлопец Гаўрыла, што быццам бы не захацеў паразумецца з высакародным і далікатным злодзеем Чалкашом.

Натуральна, што такое аднамерна-прадузятае ўяўленне аб чалавеку дапускала ў дачыненні да яго амаль абавязковае ўздзеянне нейкай строгай выхаваўчай і перавыхаваўчай кантралюючай сілы.

У такіх умовах, калі селяніна спрабавалі выхоўваць і перавыхоўваць, вучыць і перавучваць усе, каму толькі ўздумаецца, заканамерна паўставала пытанне: а хто ж такі сам гэты «вучань»? Сапраўды ён не можа жыць без павучання-падказкі ці гэта мана, з якою ніякім чынам нельга пагадзіцца? І хоць, скажам, літаратура на так званую тэму калектывізацыі часта імкнулася пашыраць межы «настаўніцкай» павучальнай тэндэнцыі, скіраванай на выхаванне і перавыхаванне селяніна, і захоплівала вельмі шырокае поле пісьменніцкіх інтарэсаў, у многіх выпадках яна ішла ўсё ж насуперак ісціне і аб'ектыўным законам жыцця.

Разам з тым, як паказаў час, ідэйна-праблематычная лінія ў беларускай літаратуры, што адстойвала права селяніна на самастойны ўчынак, самастойную думку, самастойны выбар жыццёвых шляхоў і рашэнняў і бараніла яго ад розных самазваных настаўнікаў, найбольш поўна адлюстроўвала і глыбокі драматызм самой грамадскай з'явы — калектывізацыі, і найбольш дакладна настройвалася на праўдзівае раскрыццё ўнутранага свету чалавека.

Гэтага погляду прынцыпова і паслядоўна прытрымліваюцца Я. Колас і К. Чорны ў аповесцях «Адшчапенец» і «Лявон Бушмар», хоць кожны з іх ідзе і сваім асобным шляхам у раскрыцці характараў і мастацкім асэнсаванні найскладанейшай жыццёвай праблемы.

Я. Колас, напрыклад, з розных бакоў падыходзіць да свайго галоўнага героя Пракопа Дубягі, каб паўней даследаваць яго індывідуальна-псіхалагічную прыроду характару. Але галоўным чынам пісьменніка цікавіць, як можна заўважыць, выяўленне яго рэальных і патэнцыяльных магчымасцей думаць, разважаць, прымаць самастойныя рашэнні. У першую чаргу думка, клопатна-трывожная думка пра самога сябе і лёс сваёй сям'і, заснаваная на цвярозым успрыманні рэчаіснасці, прымушае яго стаць на пэўны час «самавыгнаннікам», адшчапенцам, які паставіў перад сабою мэту «шырэй і глыбей» убачыць і параўнаць жыццё аднаасобніцкае і калектыўныя яго формы.

Пракоп Дубяга, паводле слоў аўтара, распачынае сваё вандроўніцтва з думкай «замацавацца ў жыцці на сваіх старых поглядах і на старым грунце». І шмат у чым ён мае тут рацыю. Бо многія і многія палітыкі, шукаючы для сябе падтрымку на шляху да ўлады, звычайна абяцалі селяніну «залатыя горы», але часта падманвалі яго і вельмі хутка забывалі пра свае абяцанні. Само жыццё вучыла селяніна быць насцярожаным да розных такіх цацанак-абяцанак, настройвала яго на крытычны падыход, каб неяк засцерагчы сябе ад вялікай і малой бяды. Праўда, Пракоп Дубяга ўмее і адступацца ад раней прынятых рашэнняў, ацэнак і намераў, калі зноў-такі, думаючы, разважаючы, параўноўваючы, ён пераконваецца, што ранейшыя яго ўяўленні і меркаванні пра пэўную жыццёвую з'яву не вытрымліваюць праверкі логікаю жыцця.

Само паняцце «думка», выяўляючыся ў розных сэнсавых значэннях, з'яўляецца ў коласаўскай аповесці па-свойму характэрнай прыкметай лексічна-стылёвай пісьменніцкай манеры і асабліва тых сюжэтных адгаліненняў твора, дзе ў цэнтр аўтарскай увагі трапляе галоўны герой. Вось толькі некаторыя прыклады, узятыя з адной 116 старонкі аповесці: «Пракоп цэлымі гадзінамі не спаў і разважаў, прапускаючы праз сіта самакрытыкі свае паводзіны, няяснасць і неакрэсленасць свайго стану. А да гэтага далучаліся і думкі аб пакінутай гаспадарцы, аб сям'і і доме. А Пракопавы думкі ідуць ды ідуць, нанізваючыся адна на другую, покі, нарэшце, незаметна для Пракопа адна з іх не запыніла на сябе яго ўвагі на адным з такіх яго начлегаў. І сапраўды, гэта не кепская думка! Пракоп прыцішана трубіць носам і пачынае развіваць яе далей. Як запраўскі філосаф, мяняючы сваю ранейшую сістэму светапогляду, прапускае яе праз няўмольную крытыку; Вось тая шчаслівая думка, што запыніла на сабе Пракопаву ўвагу. Але як да яе прыступіцца!» І г. д.

Думка коласаўскага героя раскрывае сябе ў досыць шырокім сацыяльна-псіхалагічным дыяпазоне, хоць у асноўным і занята параўнаннем калгаснага і аднаасобніцкага жыцця. Гэта думка па-свойму кампрамісная, заглыблена-філасофская і цярплівая, гуманістычная. Душа і сэрца Пракопа адкрыты, каб прыкмячаць, заўважаць у жыцці добрае і пашыраць, узбагачаць такім чынам уласны жыццёвы вопыт.

Не абмінае яго засяроджаны аналітычны позірк і тое, што ідзе насуперак здароваму сэнсу. Яму, напрыклад, здаецца алагічным, што людзі, накшталт Кандрата Казея, у якіх «рукі да работы не здатны, але язык ходзіць спрытна», выношваюць намер заняць у калгасе начальніцкія крэслы. Коласаўскага героя вельмі непакоіць у жыцці калгаснай вёскі і магчымасць схавацца за чужыя плечы гультаяватаму і нядобрасумленнаму чалавеку. Пракоп Дубяга, напрыклад, добра бачыць, што «Марыніч — хітры, гультаяваты чалавек, толькі від паказвае, што робіць, а сам пасмейваецца з Пракопа». Непрыемна здзіўляе Пракопа і тое, што калгаснікі не дужа рвуцца на працу, не вельмі рана спяшаюцца ўставаць. Пры гэтым з такою з'явай ён сустракаецца быццам бы ва ўзорным для свайго часу калгасе «Хваля рэвалюцыі»: «Аднак жа калгаснікі не надта спяшаюцца ўставаць,— крытычна заўважае ён сам сабе, бо пачынала развідняцца, а на калгасным двары было яшчэ ціха».

Аднак болей за ўсё коласаўскага героя не толькі здзіўляюць і непакояць, а балюча трывожаць праявы валявога і катэгарычнага націску на індывідуальную самабытнасць чалавека, на яго духоўную «самасць». І гэта трывога небеспадстаўная. Ён адчувае і дзесьці нават добра разумее, што чалавек, пазбаўлены такой індывідуальнай адметнасці, «самасці»,— слабы набытак і для любога калектыву. І больш таго. У такой духоўнай безаблічнасці чалавека, як гэта ўяўляецца герою (а найбольш, вядома, самому аўтару), закладзена вялікая небяспека для самога гэтага чалавека і асабліва для тых, з кім ён знаходзіцца ў жыццёвых узаемакантактах.

Мастацкі тэкст і падтэкставая плынь аповесці «Адшчапенец» даволі актыўна «працуюць» на паказ таго, што нежаданне ці няўменне дакопвацца да прычынных асноў жыцця немінуча настрайваюць чалавека на кан'юнктурна-прыстасавальніцкі лад мыслення і адпаведныя такому яго спрошчанаму дыялогу з рэчаіснасцю дзеянні.

Характэрны хоць бы такі эпізод. У калгасе «Хваля рэвалюцыі» адбываецца агульны сход, на якім разглядаецца так званая «справа» сумленнага і разумнага чалавека, Лапкі, які асмеліўся выйсці за межы афіцыйных і начальніцкіх прадпісанняў: даў з агульных запасаў сваім жа калгаснікам, што мелі каровы, некалькі мяшкоў сечкі. А ў дадатак да ўсяго, не адмовіў заможнаму селяніну-хутаранцу Цімоху Бабуру, па тагачасным вызначэнні кулаку, паправіць печ.

Адным з першых на гэтым сходзе выяўляе жаданне выступіць нейкі вечна «хмуры» і «сярдзіты» яго аднавясковец Сымон Таркевіч. Але меней за ўсё яго цікавіць рэальны чалавек. Галоўная турбота Сымона Таркевіча — дагадзіць мясцоваму начальству і настроіцца на кан'юнктурна-прыстасавальніцкую хвалю: «Як тут выказацца? — сярдзіта запытаў Таркевіч: — трэба наўперад ведаць, што гэта за сход: ці гэта чыстка, ці суд? А то не ведаю, як прыступіць... Ці гэта парадак?...»

Аднак само паняцце «парадак» уяўляецца Таркевічу, на жаль, вельмі звужана. Яму, у прыватнасці, здаецца, што асноўную дысгармонію ў парадак і дысцыпліну ўносіць чалавечая дабрата, а таму яна заслугоўвае суровага асуджэння. Зыходзячы з такіх звужаных і спрошчаных меркаванняў, ён і дае поўную волю крытычнаму запалу ў адносінах да свайго суседа-аднавяскоўца Лапкі: «Па дабраце сваёй наш брыгадзір, прыкладны калгаснік, з вялікімі заслугамі перад калгасам, таксама хадзіў і на хутар да кулака Бабуры, які некалі жнярку падараваў, ведаючы, што яе ўсё роўна забяруць ад яго. І хадзіў наш Лапко не далей як учора. І што ж вы думаеце ён там рабіў? Правіў печ кулаку! Чарано, бачыце, правалілася. Хто ж яму, бачыце, дапаможа? — з едкім смехам запытаў Таркевіч і сам адказаў: — Ну, вядома: наш добры таварыш Лапко! Ці ж гэта парадак? Такую дабрату вытручваць трэба!»

Само слова «дабрата» ў выступленні Сымона Таркевіча (і не аднаго яго) наогул ужываецца не толькі са знакам мінус, але і ў падкрэслена іранічным значэнні. І гэты момант мае ў творы глыбокі падтэкст. Я. Колас спыняе нашу ўвагу на з'явах, якія ўсё больш выразна набывалі ў краіне сілу антыгуманістычнай грамадскай тэндэнцыі, у многіх выпадках пагрозліва, непрымірыма і нецярпіма настроенай да чуйнай, клопатнай, разважлівай думкі чалавека і яго незалежнага самастойнага дзеяння.

Пагрозлівую сілу калгаснага сходу добра адчуў і той, каго гэты сход сабраўся, калі можна так сказаць, перавыхоўваць. Чалавек неардынарны, таленавіты і, як можна здагадвацца, не такі ўжо баязлівы, «прыкладны калгаснік» і, паводле аўтарскага вызначэння, «муляр-прафесіянал, муляр-мастак» Лапко пачынае біць сябе кулакамі ў грудзі, раскайвацца і «праклінаць сваю дабрату», некалькі разоў паўтараючы, каб яго пачулі, што больш ніколі не будзе спяшацца быць добрым і асабліва ў дачыненні да тых, каго афіцыйныя ўлады ўжо наўперад залічылі ў разрад палітычна ненадзейных і варожых элементаў. У голасе яго гучалі ноты не толькі пакаяння, але нейкага нават бязлітаснага самаасуджэння і самабічавання: «Усё гэта, таварышы, праўда, у чым тут абвінавачвалі мяне, і я дзякую за праўдзівыя словы. Натура мая,— тут Лапкоў голас загучаў злосцю: — паршывая натура! Але я зламаю яе!.. Бо я ведаю, што калгаснік не павінен вадзіць кампаніі з пасялкоўцамі. Дык я, таварышы, прызнаюся ў сваёй віне, і мне будзе лягчэй на сэрцы, калі вы пакараеце мяне за гэта».

Аўтар больш нічога не гаворыць нам пра далейшы лёс героя, далейшую эвалюцыю характару гэтага чалавека. Але пытанне пастаўлена. І вельмі сур'ёзнае. А на якую ж жыццёвую дарогу стане гэты чалавек пасля такога гвалтоўнага ўмяшання ў яго духоўны свет? Адвольна пашыраць межы аўтарскага падтэксту, вядома, зусім непажадана. Аднак магчыма, відаць, зрабіць і такое дапушчэнне, як гэта ўяўляецца Ф. Іскандэру, калі ён пачынае разважаць пра падобныя з'явы. «Гвалтоўнае ўмяшанне ў душу чалавека і небяспечна, і бескарысна. Чалавек, у душу якога гвалтоўна ўварваліся, разбураецца сам і ў якасці помсты разбурае ўсё навокал».

Вядома, з аўтарам можна было б тут і паспрачацца, і не з усім пагадзіцца. Далёка не заўсёды чалавек унутрана разбураецца, і не заўсёды становіцца помслівым разбуральнікам, калі нават знешнія абставіны складваюцца для яго вельмі неспрыяльна. Аднак нам трэба, безумоўна, улічваць, што фізіяпсіхалагічная прырода чалавека не бязмежная ў сваім супрацьдзеянні гвалтоўнаму і прымусоваму націску на яе.

У гэтым сэнсе цікавай і па-новаму шмат у чым яшчэ не прачытанай мастацкай старонкай у нашай літаратуры з'яўляецца аповесць К. Чорнага «Лявон Бушмар». Гэты твор, як нам уяўляецца, у больш адкрытых праявах тэксту, развівае і тую сюжэтную лінію, якую Колас у адпаведнасці з задумай акрэсліў вельмі пункцірна найбольш у заглыблена-падтэкставай форме пастаноўкі пытання, а менавіта лінію, якая звязана з выяўленнем духоўна-псіхалагічнай дэфармацыі чалавека, калі на яго няспынна і жорстка ціснуць вонкавыя абставіны.

Разглядаючы аповесць К. Чорнага «Лявон Бушмар» і спыняючы ўвагу на раскрыцці характару яе галоўнага героя, наша крытыка доўгі час канцэнтравала сваю асноўную ўвагу на паверхневай плыні сатырычнай тэндэнцыі гэтага твора. І тут яе вялікая памылка. Выкрывальна-сатырычны пафас у аповесці «Лявон Бушмар» і сапраўды вельмі моцны, і падчас набывае нават гратэскава-завостраныя формы. Аднак калі глыбей учытацца ў твор, то нельга не заўважыць, што крытыкуе і выкрывае аўтар свайго героя ў асноўным усё-такі не за тое, што ён уласнік, гаспадар, заможны хутаранін, які змагаецца за свой хутар і не хоча ўступаць у калгас. Тут іншыя прычыны. І галоўная з іх тая, што чалавек гэты прынцыпова не настроены, гаворачы словамі аўтара і некаторых герояў твора, духоўна «зыначыцца» і не хоча, не жадае і не ўмее (усё тут узаемазвязана) колькі-небудзь сур'ёзна задумацца над складанымі паваротамі жыцця, калі яно нават вельмі балюча закранае яго асабістыя інтарэсы і інтарэсы блізкіх яму людзей.

Коласаўскі Пракоп Дубяга, як мы ўжо гаварылі, таксама высока ставіць сваю індывідуальную чалавечую «самасць» і не вельмі спяшаецца растварыцца ў калгасным калектыве. Нават і прыняўшы не без прымусу вонкавых абставін рашэнне стаць калгаснікам, ён у глыбіні душы пакідае за сабою права на крытычны падыход да тых падзей, якія навокал яго адбываюцца і разгортваюцца. Менавіта ў такім стане ўсё яшчэ не завершанага, не закончанага аналітычнага і крытычна-параўнальнага роздуму над жыццём калгаснай і аднаасобніцкай вёскі мы расстаёмся з гэтым героем.

І вось тут, менавіта на гэтых лініях герой коласаўскай аповесці «Адшчапенец» і герой аднайменнай аповесці К. Чорнага «Лявон Бушмар» рэзка разыходзяцца ў розныя бакі. Думаць і разважаць для апошняга — гэта заўсёды нейкі непатрэбны і лішні цяжар, ад чаго трэба як найхутчэй пазбавіцца. «Людскою думкаю,— гаворыць аўтар,— ён не цікавіўся. Ён быў бы рад, каб нават чалавечая нага не ступала на яго хутар, каб ніводная жывая істота, якая можа думаць і гаварыць, не з'яўлялася ніколі на гэты бок лесу». Калі, напрыклад, думка коласаўскага героя звычайна скіравана на аналіз і часам нават на філасофскую самазаглыбленасць, то думка Лявона Бушмара найбольш толькі канстатуе з'яву, не прыкладаючы намаганняў выявіць яе прычынную сутнасць. Вось чаму мы найбольш бачым яго ў нейкіх імклівых, нервовых руках, у дзеянні-працы, але, як заўважае аўтар, «без думак аб прычынах», бо «думак у яго было мала, думаць ён не прывык».

Ну, а які ж Лявон Бушмар працаўнік і гаспадар на сваёй хутаранскай зямлі? З гэтага боку, як кажуць, у аўтара няма да свайго героя ніякіх нараканняў. Лявон любіць зямлю і ўмее на ёй працаваць. І нярэдка аўтар не без захаплення паказвае гэта ў сваім творы. Нават тады, калі хата і гаспадарка Лявона застаюцца на нейкі момант без жаночага нагляду і ў чымсьці тут паяўляецца «вялікі непарадак», сляды гэтага непарадку, паводле слоў аўтара, заўважаюцца «ва ўсім тым, што не належала да зямлі і жывёлы».

(Працяг на стар. 10).

# Пад асфальтам—зямля

**На выставе Алеся МАРАЧКІНА**



«Абуджэнне».



«Палеская мадонна».

Ёсць мастакі, чыя творчасць мае чыста гістарычную цікавасць. Па ёй можна вывучаць матэрыяльную культуру грамадства альбо яго ідэалагічныя ўстаноўкі, эстэтычныя прыхільнасці тых, хто плаціць, і тых, хто прадае. І ёсць мастакі, цікавыя як асобы, як творцы, здольныя ўплываць на вобраз эпохі. Да апошніх, на маю думку, належыць і Алесь Марачкін. Ягоныя асабістыя матывы аказаліся вельмі сугучнымі пэўным грамадскім настроям, трывогам і падзеям супярэчлівага часу, які мы называем беларускім Адраджэннем. Марачкін—чалавек, які ніколі не вагаўся ў пытаннях сваёй нацыянальнай і духоўнай прыналежнасці. І гэта стала вызначальным у ягонай творчасці.

Палотны і графіка, прадстаўленыя на выставе ў Мастацкім музеі Беларусі, адлюстроўваюць усе перыяды яго творчасці—ад вучнёўства да сённяшняга дня, але работы ў большасці гледачам невядомыя. Алесь Марачкін адабраў для экспазіцыі некалькі «класічных» твораў, з тых, што былі на выставах рознага рангу, друкаваліся ў часопісах—з ліку тых, па якіх беспамылкова пазнаюць: гэта — Марачкін! Разам з імі—творы, у свой час адхіленыя выстаўкомамі, і нарэшце карціны эксперыментальнага кірунку, створаныя ў апошні час. Гледзячы на іх, аматары творчасці, мастакі адчуваюць пэўную занепакоенасць: не губляецца за эксперыментам тая грунтоўнасць, глыбокая пранікнёнасць у тэму і вобраз, уласцівыя «класічным» творам мастака? Так гэта ці не так, пакажа час. Я асабіста схільны думаць, што з'яўленне палотнаў без акрэсленай тэмы, палотнаў, дзе дамінуе фармальна-стылістычны пачатак, для мастака Марачкіна — рэч абсалютна натуральная. Час ад часу творца павінен пераасэнсоўваць зробленае за пэўны перыяд, разбураць уласныя выяўленчыя стэрэатыпы.

А пра тое, што мастак не забывае аб надзённых праблемах беларускай зямлі, сведчыць інсталяцыйны твор, які складаецца з карціны 1989 года, прысвечанай Беларускаму народнаму фронту, і абпаленых рэшткаў бел-чырвона-белага сцяга — таго самага, што ўпрыгожваў пляц Незалежнасці ў Дзень беларускай вайсковай славы 8 верасня...

Кожная эпоха пакідае пасля сябе так званы культурны пласт. Чым болей тых пластоў —тым далей чалавек ад першароднай зямлі (археолагі называюць яе «мацерыком»). Таму і нашай эпосе патрэбны мастак, які сваёй творчасцю вяртае людзям пачуццё зямлі, пачуццё першаснасці. Трэба, каб нехта ўвесь час нагадваў, што пад асфальтам—зямля.

**В. БОГУШ.**



Інсталяцыя са спаленым сцягам і карцінай А. МАРАЧКІНА часу стварэння БНФ.



«Хто з вас без граху?»

# РАДОК У БІЯГРАФІЮ ПЕСНЯРА

Перад намі на фотаздымку дарэвалюцыйнага часу партрэт старога ў поўны рост. Увагу ў першую чаргу прыцягвае раздзеленая на дзве часткі вялікая барада. Пільны, скіраваны ў далеч пагляд. Простае адзенне. Стары на здымку яшчэ фізічна мажны. Спакойна засунутая за пояс левая рука. У правай трымае апушчаную ўніз сякеру. Адчуваецца нейкае нецярпенне ва ўсёй постаці: маўляў, хутчэй канчайце сваю працэдуру з фатаграфаваннем, у мяне не асабліва багата часу для вас.



А цяпер звернемся да трылогіі Якуба Коласа «На ростанях». Суд над паэтам і яго таварышамі. У 36-м раздзеле другой часткі трэцяй кнігі трылогіі ёсць досыць дэталёвае апісанне знешняга вобліку старшыні суда. Вось першае ўражанне: «уперадзе важна выступаў старшыня суда, член Віленскай судовай палаты, шырокі, сівабароды, грамозны чалавек. Барада яго была раздзелена на дзве палавіны і рабіла такое ўражанне, быццам пад сківіцамі ў старшыні былі прымацаваны два караткаватыя венікі, звязаныя з белага кучаравага баравога моху, дзе любяць расці чорныя баравікі. Гэта быў вядомы ў той час сярод палітычных падсудных сапраўдны стацкі саветнік Бабека, чалавек, бязлітасны да сваіх ахвяр. Нездарма сярод засуджаных ім хадзіла такая прымаўка: «За сталом сядзіць Бабека, той, што губіць чалавека».

Ці ж не праўда, дзіўнае падабенства старшыні суда ў апісанні Якуба Коласа і асобы на фотаздымку? Так, сапраўды, гэта адна і тая ж асоба.

У трылогіі падсудны ўвесь час сочыць за старшынёй суда і дае трапныя характарыстыкі, не пазбаўленыя сатырычнай завостранасці: «Старшыня суда велічна ўзняўся з крэсла. Два венікі яго барады крыху падаліся ўгору», «...ён спакойна і важна аддаў загад... прывесці ў залу падсудных...» Абвінаваўчы акт «чытаў ён аднатонна і нудна». «Зусім абыякава паставіўся» да паказанняў экспертаў, якія доказна даводзілі, што почырк Лабановіча ні ў якой меры не падобны да почырку, якім была напісана адозва. Уваходзячы ў залу суда пасля перапынку, «Бабека быў яшчэ болей важны, чым раней». «Не спяшаючыся, важна ўзняўся з свайго трона Бабека і, трымаючы ў руках ліст паперы, прыступіў да чытання...» «Як толькі чытанне рэзалюцыі было скончана, Бабека, як арол, акінуў вачамі залу і трубным голасам аддаў загад».

Як ужо высветлена ў навуковай літаратуры, сапраўднае імя старшыні суда было Павел Фаміч Кабека. На здымку мы бачым іменна яго, толькі сфатаграфаванага праз некалькі год пасля суда над беларускім паэтам.

У вершы Якуба Коласа «Ноч у астрозе», які напісаны 20 кастрычніка 1908 года, г. зн. неўзабаве пасля заключэння паэта у астрог, сустракаем радкі, у якіх зноў упамінаецца старшыня суда. Пасаджанаму ў астрог

Мо Кабека здасца,
Спраўніка прысніць,
Ды «параша» зрэдку
Глуха загрыміць.

Успамінаў Якуб Колас старшыню суда і ў артыкуле «Цені мінулага», напісаным у 1922 годзе. Там ёсць такі момант. Зняволены, «даведаўшыся, што на чале судзебнае палаты быў Кабека, жартліва заспяваў:

На гары сядзіць Кабека,
Забіў махам чалавека».

Аказваецца, у пачатку нашага стагоддзя П. Ф. Кабеку добра ведалі на Мсціслаўшчыне, а старажылы вёскі Кудрычы, што знаходзіцца за пяць кіламетраў на ўсход ад старажытнага Мсціслава, добра памятаюць яго і цяпер.

У 1887 годзе вядомы віленскі юрыст, пецярбуржац па нараджэнні П. Ф. Кабека (1845 года нараджэння), як бачым, у досыць сталым узросце ажаніўся з дачкой бедных памешчыкаў з в. Кудрычы Сердзюковых семнаццацігадовай Аленай. Дарэчы, ён быў братам вядомага пецярбургскага вучонага-гісторыка, эканаміста і грамадскага дзеяча члена-карэспандэнта Расійскай Акадэміі навук Д. Ф. Кабекі. Пэўны час сям'я Кабекаў жыла ў Вільні. Там вучыліся дзеці, жонка займалася дабрачыннай дзейнасцю. Але сувязі з маёнткам у Кудрычах не парываліся. Кабекі часта сюды наведваліся, падоўгу жылі, мелі пастаянную сувязь. Гадамі ў вёсцы ў бабулі Аляксандры Мікалаеўны жылі іх дзеці. На пачатку стагоддзя П. Ф. Кабека абіраўся ганаровым міравым суддзёй у Мсціслаўскім павеце.

Праз некаторы час яны зусім асталяваліся ў вёсцы. Гаспадаркай займалася Алена Іванаўна з упраўляючым. Састарэлы П. Кабека быў вельмі далёкі ад штодзённых жыццёвых мітрэнгаў і ўдзелу ў гаспадарчых справах не прымаў. Старажылы-вяскоўцы ўспамінаюць яго як добрага, спагадлівага чалавека. Вяртаючыся фурманкай з горада, Кабекі абавязкова адорвалі цукеркамі вясковую дзетвару.

Жыццёвы лёс не быў літасцівым да П. Кабекі. Востра давала адчуваць сябе істотная розніца ў гадах з жонкай. У сям'і ўзнікалі нелады. Ад усяго гэтага стары, узяўшы сякеру (звернем увагу на фотаздымак!) і невялікую лавачку, на цэлы дзень сыходзіў, як гаварылі ў вёсцы, з «комнат», шукаючы хоць якога прыстанку, адзіноты. Яго любімым заняткам стала церабленне канаў і аборкаў. Да месца заўважыць, канаў у свой час, упарадкоўваючы зямлю, нямала накапаў яго цесць І. І. Сердзюкоў, асоба цікавая і пакінуўшая пэўны след у гісторыі беларускай культуры.

Любіў П. Кабека таксама займацца ўпарадкаваннем могілак. Падчышчаў дарожкі, пасыпаў іх пяском, папраўляў агароджу, запальваў лампадку, падоўгу заседжваючыся вечарамі на гэтым апошнім прытулку чалавека. Ранкам на лаўцы знаходзілі цэлую горку папяросных гільз.

А раскол у сям'і павялічваўся. У архіўных матэрыялах перыяду кастрычніцкай рэвалюцыі выяўлены даныя, што П. Кабека з жонкай уносілі падаходны падатак паасобку. Апошняе архіўнае ўпамінанне імені П. Кабекі звязана з тым, што ў красавіку 1920 года ён прадаў за наяўны разлік раяль маркі «мюльбах» Мсціслаўскім педагагічным курсам (пазней педвучылішча). Памёр ён у 1922 годзе і пахаваны на кудрыцкіх могілках.

Варта адзначыць, што сын Кабекаў Павел (1897—1954) вырас у буйнога вучонага, члена-карэспандэнта АН СССР. На працягу чвэрці стагоддзя ён стаяў на перадавых рубяжах айчыннай фізічнай навукі. Сапраўдным подзвігам, навуковым і грамадзянскім, называюць дзейнасць П. П. Кабекі ў блакадным Ленінградзе.

Безумоўна, у архівах, асабліва ў вільнюскіх, пра П. Ф. Кабеку можна адшукаць больш дэталёвыя звесткі. Але і тое, што ўдалося выявіць, думаецца, будзе цікавым для чытачоў. Бо гэта звесткі пра чалавека, які жорстка дачыніўся да лёсу слаўнага сына зямлі беларускай Якуба Коласа і які выгадаваў выдатнага вучонага-патрыёта.

**Георгій ЮРЧАНКА.**

**Васіль ВІТКА**

# СЕМ



Прайшоўшы шлях жыцця напалавіну,
Я апынуўся ў мораку лясным,
Не знаючы, як выбрацца ў даліну.
ДАНТЭ. «ПЕКЛА».

I

Хто б мяне туды завёз
І якім рэйсам —
Сем вёрст да нябёс
І ўсё цёмным лесам.

Знік, як прывід, мой Эдэм,
Да якога клаў я мост
І не пяць, і не сем,
Ажно сем дзесяткаў вёрст.

Чым жа выславіўся год
На хвасце з сямёркай!
Тым, што стаўся мой народ
Зняверaным заморкам!

II

Хто трыццаць сёмым таўраваны!
Той, хто пракляццем катаваны
І той, хто з голаду век пух,
І той, хто клікаў рваць ланцуг.

Усе пад знакам «37».
Госпадзі, каму павем!
На арбіце кожны глух,
У нябыце кожны нем.

І той, хто з гімнам голаў склаў,
І хто яго навек пракляў
І ў адным сэрцы не злучыў
Ні дзве, ні двойчы сем айчын —
Хто быў нічым,
Не стаў усім.

III

О, спаконвечнае таўро,
Як ты канцы звязаць змагло,
Што на адным як бы дабро,
А на другім заўсёды зло!

З веку ў век меч і шлем
Варагуюць з лічбай сем.
Не змірыла ні адна
Іх сусветная вайна.

Неразгаданы татэм —
Таямніца лічбы сем,
Тайны знак астральны
І сакраментальны.

IV

Не бяры напавер,
Не чакай пярэзвы,
Сем разоў перамер
І тады адрэзвай.

Помняць людзі сем дзівос:
Сады Сяміраміды.
Егіпта піраміды,
Храм багіні Артэміды,

Алімпійскі Зеўс-калос,
Калос на востраве Радос,
На Фаросе гмах-маяк,
Маўзалей — Маўзолы знак.

V

Толькі гэта не ўсе дзівы,
Зямля болей нарадзіла.
Асцярожна ідзі,
Пільна слухай і глядзі.

Чарадзейным ключом
Сам сем нот адамкні
І ўжо ўслед за скрыпачом
Ты на сёмай вышыні.

А калі ў пачатку лета
Усё шугае ў рост так,
Колькі налічыў ты кветак
Аб сямі пялёстак!

VI

Колькі бачыў ты вясёлак
Над сваёю галавой —
На ўсё неба па сем столак
Сяміколернай дугой!

Ноччу ў яснае надвор'е
Ці лавіў ты зорны рой,
Дзвюх мядзведзіц сямізор'і —
І Вялікай, і Малой!

Хоць прыёмнік галавы
Толькі сем дыяпазонаў*
Не адчайвайцеся вы —
На зямлі свае рэзоны.

VII

Сяміпальцую далонь
Падае мне знаны пан.
Не пакрыўджу, Божа бронь.
— Добры дзень, пане Каштан!

Нездарма ж і прашчур мой
Быў з табой адзінай веры,
І, як ліст перад травой,
Дрэву кланяўся, не зверу.

Пан Каштан і зелен-князь,
Першы і другі мой друг,
Сяміпальцы ясень Ясь,
Сяміпальцавыя ўдвух.

А я толькі чалавек,
Пяціпальцавы навек.
Вочы ад кавалка хлеба
Падымаю зноў да неба.

VIII

Нагатове безліч схем,
Гатоў і задаволіцца,
А што, калі тры, пяць і сем
І ёсць пачаткі дойлідства!

А што, калі яна,рука,
І ёсць зарука вечнага —
І роспіс крыльцаў матылька,
І вырыс Шляху Млечнага,

І самабольшая з паэм,
І самабольшая з патрэб —
Таямніца лічбы сем
І мой зямны надзённы хлеб!

*) Па вертыкалі: лоб (розум), нос, рот; па гарызанталі: вочы, вушы. Цікава, што і асноўныя жыццятворныя ўнутраныя органы чалавека вызначае лік сем, як і колькасць спосабаў спазнання і захавання інфармацыі: зрок, слых, смак, нюх, дотык, прадчуванне, памяць.

Перад табой хілюся ніц,
Перад слязой дзіцячаю,
О, таямніца таямніц,
О, кніга за сямю пячацямі!

Было б сем пядзяў у ілбе,
Я не злічыў бы, колькі бед,
Якіх пакут спаткалі ўсіх
Мой век, мой апакаліпсіс.

IX

Пара б і перавесці дух,
Ды вось ён, сёмы круг —
Сем год перабудовы.
Ці зможам, ці гатовы,

Паклаўшы на алтар,
Што ўзводзілі зладзеі,
Мільёны ўжо ахвяр
І ўсё «дзеля ідэі»!

Малая ўцеха — суд ідзе!
Не Страшны ён, не Божы.
Скажы, яснавяльможны,
А хто ж падсудны, дзе?

X

Не надта ён вясёлы,
Перабудоўчы, сёмы.
І да якой вяхі
Вядуць яго вярхі!

Вярхі! Мы ледзьве жывы
Ад вашай перспектывы.
Ці многа засталося!

Без літасці, без жалю
З пажару пачалося
І доўжыцца пажарам.
У муках пасляродавых
Корчыцца зямля —
З атрутнага курадыму
Канае немаўля.

На глыт паветра вобмаль —
Так пеклішча зырыць.
Каторы ўжо Чарнобыль
Сяголета гарыць!

Гары, зямля! Ты лішняя,
Як з сошкаю, каторы.
Нас уратуюць лыжкамі —
На кожнага сямёра.

XI

Дзе ж пачатак, дзе канец —
Ведае хіба што ён,
Найвялікшы наш тварэц,
Найвялікшы наш паэт,

Той, каторы за сем дзён,
За сем дзён стварыў сусвет,
Для планеты — запаветы,
Неўміручасці сакрэты,

Неразгаданасць загадкі —
Завязь кожнага зярняткі,
Адзінага спадкаемца —
Вечнае над намі сонца.

XII

Неабвержны таму сведка —
Кожная жывая клетка
І зямлі штогодні доказ,
Як выдзёўбваецца крокус

І як подлетак-дзяўчына,
Ззяе ў пацерках рабіна,
Дзве ўжо выспеліўшы гронкі—
Выбраў дуб рабіну ў жонкі.

Дасць Бог, з новае асновы,
Другім наваратам — з дрэва
Усё пачнуць яны нанова,
Як калісь Адам і Ева.

Будзе ўцешна ім сумесна,
Пойдзе ў свет другая песня,
Пойдзе ўпэўненасць па людзях,
Што і людзям шчасце будзе!

Лета 1992 г.

# ПАКАЯННАЯ МАЛІТВА БЕЛАЙ РУСІ

Адвеку мы спалі...
(З марсельезы, якая не стала гімнам).

Хіба безыменная я паміж свету,
Не чула, не бачыла, хто там ідзе.
Выгукну сыну, прароку, паэту:
— Я—Белая Русь у людской грамадзе!

Я доўга стаяла на раздарожжы,
Дзяцей выглядаючы з-пад рукі.
Даруй мне ўсе нашы грахі, святы Божа,
І сонцам ізноў узыйдзі на вякі.

Перад табой я—адвечная маці,
За ўсіх вінаватых цярплю і малю,
За род і за нарад, што гонар свой страціў
Знявечыў і абняславіў зямлю.

Віна ўсіх, каго я пад сэрцам насіла,
Душу мне ірве і цяжарам гняце,
Калі твая боская воля і сіла
Карае маіх, сном заклятых дзяцей.

Я сэрца сваё на кавалкі б пасекла,
Да кропелькі кроў бы за ўсіх аддала,
Чым бачыць, як пры жыцці яны ў пекле
Гараць і згараюць да самага тла.

Ці на зямлі, дзе жылі мы, што будзе,
Ці застанецца хоць успамін,
Калі ўжо не белай, а чорнаю людзі
Зваць яе будуць зямлёю Палын!

Душу неўміручую некуды дзець мне,
Дай месца ёй, грэшнай, дзе і яны.
Госпадзі, забяры разам з дзецьмі,
Няхай жа хоць сняцца нам родныя сны.

27.10.1992.

# НЕ БУДЗЕМ ЦЕШЫЦЦА ІЛЮЗІЯМІ

## Па старонках «самвыда»

Ніншто так не палохае і не выклікае дыскамфорту, як ломка звыклых стэрэатыпаў, цэлага ладу жыцця. Тычыцца гэта сёння шмат чаго, і, канешне, літаратурнага працэсу.

Памятаю, як неяк гідліва, бы «змею обоюдоострую», браў у рукі адзін досыць масціты літаратар тоненькую кніжачку маладых паэтаў А. Аркуша і П. Бурдыкі, выдадзеную ў Полацкай друкарні. Як быццам глеба з-пад ног выходзіла: як гэта — у Полацку, «самвыдам», без тэмплана, чаргі!.. Захацеў—і надрукаваў?

Бачыў і другую крайнасць. «Дзяржаўныя выдавецтвы ўвогуле трэба зачыняць, — казаў у запале адзін з яркіх прадстаўнікоў «андэграўнда». — Рынак ёсць рынак, і аўтар сам павінен клапаціцца, дзе выдавацца. Абы кніга добрая была!»

Увогуле, мне здаецца, як гэта ў нас часта бывае, увесь ажыятаж вакол афіцыйнага друку і «самвыда»—чарговая бура ў шклянцы вады. Пырскаў і бурбалак шмат, але ж ці ёсць пра што спрачацца? Вядома, непаваротлівасць. пэўны кансерватызм нашых манапалістаў-выдаўцоў аб'ектыўна не на карысць аператыўнасці і якасці выданняў. Але ж ці сур'ёзна будзе лічыць, што дробныя саматужныя выдавецкія суполкі заменяць такія «фабрыкі друку», як выдавецтвы «Мастацкая літаратура», «Юнацтва», «Беларусь» і іншыя, дадуць аб'ектыўную карціну сучаснага літаратурнага працэсу? Думаю, што не.

Тым не менш, сёння хацелася б пагаварыць менавіта пра «самвыд» — тыя паэтычныя зборнікі, якія выйшлі апошнім часам на перыферыі і ў Мінску і якія мне давялося бачыць і набыць.

«зьбег з буды сабака
шукаць
мацнейшы
ланцуг».

Як бачым, лаўры Разанава, Зянона, Арлова яўна не даюць спаць шматлікім пераемцам іх паэтычнай манеры.

Гэтым вершам адкрываецца зборнік Ігара Сідарука **«Чорнабел»**, надрукаваны летась у Кобрыне. Рэдактарам пазначаны Алег Мінкін, наклад — 900 асобнікаў. Скажу адразу, што ў вельмі непрафесійным паліграфічным выкананні вершы маладога паэта якраз вызначаюцца прафесійнасцю, досыць высокім узроўнем.

Сідарук працуе ў жанры «сацарту», стараецца па-свойму адгукнуцца на падзеі палітыкі і жыцця. Дысгармонія, бязвер'е, самота — вось складнікі стану яго лірычнага героя, сучаснага маладога чалавека. Ён нібыта задыхаецца ў вязкай атмасферы крывадушша, абыякавасці, няшчырасці:

...рэшце ўсё роўна
... зьвязваць рукі
калючым дротам
ці чайнай ружаю.

Форма верша, адсутнасць знакаў прыпынку быццам падкрэсліваюць гэтыя інтанацыі. Праўда, мне падалося, што часам форма і літаратурная гульня пачынаюць пераважаць над шчырасцю пачуццяў, глыбінёй думкі, і атрымліваецца, што нават трагічныя ноткі гучаць холадна і прагматычна.

Шмат падобнага можна сказаць і пра вышэйзгаданы зборнік Алеся Аркуша і Павала Бурдыкі **«Тайніца»**, дзе ёсць і нямала цікавых вершаў.

**«Запалі імгненне».** У Полацкай друкарні пад такой назвай выйшаў паэтычны альманах літаратараў Лепельшчыны. Людміла Барадзейка, Вера Бародзіч, Вера Буланда ўжо не навічкі ў літаратуры, але ў сваім «уласным» альманаху змаглі прадставіць творы больш поўна. Побач з імі ўпершыню пабачылі сваё імя ў паэтычным зборніку Уладзімір Садзін, Станіслаў Свірковіч, Святлана Пліско, Раіса Гольдзіна, Святлана Якубоўская...

У адрозненне, скажам, ад тых жа Аркуша, Бурдыкі, Сідарука, у лепельцаў амаль няма чыста фармальных навацый, пэўнага канструктывізму. Ёсць проста харошыя паэтычныя радкі, і добра, калі яны знойдуць свайго чытача.

А зборнік вершаў «Шлях», які выйшаў летась у Гародні, «застрахаваны» такімі высокімі імёнамі, як доктар філалагічных навук, намеснік дырэктара Інстытута літаратуры АН Беларусі У. Гніламёдаў і кіраўнік літаратурнага аб'яднання «Наднёманскія галасы» кандыдат філалагічных навук М. Мікуліч. Тут таксама ёсць знаёмыя асобы — Юрась Пацюпа, Андрэй Пяткевіч, Юры Гумянюк. Іх удала дапаўняюць творы Едруся Маско, Юрыя Карэйвы. Тысячу асобнікаў «Шляху» выдала Гродзенскае абласное ўпраўленне па друку.

Пра бурную кнігавыдавецкую дзейнасць у раённым гарадку Пастaвы ў «ЛіМе» ўжо згадвалася. Мне трапіў у рукі зборнік сатырычных паэм Алеся Касценя **«Правінцыялы»** — з добрай доляй гумару, гратэску, вострай публіцыстыкі.

На кніжным рынку можна сустрэць і прадукцыю нашых больш вядомых літаратараў. Згадаю яшчэ раз свежы зборнік вершаў Таццяны Сапач, на які была арганізавана досыць багатая прэса.

І такія вось пікантныя мясціны прапаноўваюць самвыдаўскія кнігі:

«— Всё снимать? — спросила женщина и сбросила сапог.
— Всё, — прозвучало из-под темной шляпы.
Хозяйка сбросила бельё.
— Повернись ко мне спиной и согнись...»

Я перарву цытату. Гэта з кнігі Адама Глобуса «Оборотни», якую выпусціла сталічная асацыяцыя дэтэктыўнага прыгодніцкага і палітычнага рамана. Не хачу выглядаць рэтраградам і ханжой, хоць, па шчырасці, пытанні тут ёсць. Да прыкладу, чаму гэта абвязкова трэба было перакладаць на расейскую мову, а таксама дзіўна выглядае прадмова, дзе паэт У. Някляеў сцвярджае, што «сказки Глобуса — это... попытка поверить в лучший мир...».

Насмелюся выказаць думку, што і такія кнігі патрэбныя. Гэта таксама аб'ектыўнае адлюстраванне стану і светапогляду сучасніка, яго ўзаемадачыненняў са светам. Сумнавата толькі, што для самасвядомасці людзей, пошуку духоўнага ідэалу матэрыялу ў падобных выданнях няшмат. Увогуле мне здаецца, што за чыста знешняй бравадай, уяўнай смеласцю і раскаванасцю часцей за ўсё ў нашых некаторых літаратараў адчуваецца разгубленасць, ранняя стома, чыста фармальнае вучнёўства і другаснасць.

Што ж, пачакайма новых кніжак з «самвыда», новых адкрыццяў, новых імёнаў. Але не будзем цешыць сябе ілюзіямі, што ён здолее ахапіць усю нашу паэзію, спраўіцца з літаратурнай плынню, хоць не заўсёды чыстай і вірлівай, але ж, дзякуй Богу, дагэтуль пакуль не перасохлай.

Трывожна ў свеце, трывожна ў літаратуры. А так трэба знайсці апірышча, спрыяць галоўнай мэце, якая стаіць як перад народам, так і перад прыгожым пісьменствам, — скарыстаць апошні шанц гісторыі, каб стаць годнымі і роўнымі ў сям'і дзяржаў і народаў.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**
г. Наваполацк.

# Душа дзядзькі Якуба

Мінаюць незваротныя месяцы, гады, а ў сэрцы і перад вачыма — жывы Якуб Колас. Людская памяць захавала яго непаказную дабрыню, бацькоўскую чуласць, яго жаданне прыйсці на дапамогу чалавеку ў самыя гаротныя ,хвіліны жыцця.

**Гаворыць Тэкля Фёдараўна Струй.** Тэклечка, як называлі яе сябры ў партызанскіх лясах:

**«Я ляжала ў 1943 годзе ў ташкенцкім шпіталі пасля некалькіх цяжкіх аперацый. Засталася без абедзвюх ног. Настрой быў страшэнны. Я — зусім маладая і такая бездапаможная... Часам не хацелася жыць! І тут прыйшоў у маю палату Якуб Колас. Ён выступаў у нашым шпіталі, распытваў аб земляках-беларусах. Знайшоў мяне. Якая была я шчаслівая! Канстанцін Міхайлавіч гаварыў ціха, ласкава, глядзеў на мяне з такой цеплынёй, што ўсё перавярнулася ў душы. Я паверыла ў свае сілы, падумала, што змагу яшчэ быць карыснай людзям».**

Канстанцін Міхайлавіч яшчэ некалькі разоў наведаў Тэклю, распытваў аб жыцці да вайны, чытаў (спецыяльна ёй адной) урыўкі з паэмы «Суд у лесе». 8-га жніўня 1943 года напісаў ліст Ц. С. Гарбунову, прасіў знайсці работу для Тэклі Струй, якая збіралася на радзіму ў Беларусь.

Вось так Якуб Колас блаславіў на другое жыццё маленькую беларускую дзяўчыну з горада Дзісны. Адразу пасля вайны яна скончыла ў Мінску юрыдычную школу, працавала намеснікам старшыні дзісненскага гарсавета. Яе «Запарожац» можна было ўбачыць ва ўсіх кутках роднага горада. Асабліва палюбілі Тэклю Фёдараўну дзеці за яе адважнае, гарачае сэрца.

...Амаль паўстагоддзя, пачынаючы з далёкіх ташкенцкіх сустрэч у шпіталі, я сябрую з Тэкляй. Цяпер яна жыве ў Мінску з пляменніцай Зінаідай Старцавай. І калі мы прыгадваем мінулае, перажытае, перш-наперш ажывае ў памяці Якуб Колас — чалавечны, мудры, па-народнаму натуральны.

●

...Люстэркам светлай душы Якуба Коласа была яго жонка, адданы друг Марыя Дзмітраўна, з якой я бліжэй пазнаёмілася ў час вайны. Бывала, помню, хто захварэе з блізкіх і нават далёкіх знаёмых, каму неабходны догляд ці матэрыяльная дапамога,— з'яўлялася Марыя Дзмітраўна. Міласэрнасць была неабходнасцю яе жыцця. Сама яна часта хварэла на запаленне лёгкіх. Канстанцін Міхайлавіч вельмі прасіў яе не перагружацца дома, не хадзіць у спякоту на рынак. Ніякія ўгаворы не дапамагалі!

Сям'я з чатырох чалавек жыла ў невялікім пакоі. Сюды, як на паломніцтва, прыходзілі самыя розныя людзі-землякі. Марыя Дзмітраўна для кожнага знаходзіла добрае слова і пачастунак (хай сабе сціплы, але, тым болей, дарагі).

Якуб Колас любіў яе горача і пяшчотна. Гэтыя пачуцці захаваліся і ў лістах. Калі Канстанцін Міхайлавіч куды-небудзь ад'язджаў,— ён звяртаўся да сваёй любай сяброўкі: «Мілая, родненькая, слаўная Маруська», «Мая мілая, родная, дарагая Маруся», «Мая мілая, харошая, бясконца дарагая Маруся, мой лепшы прыяцель!»

У Ташкенце людзі называлі Марыю Дзмітраўну Беларускай Маці. Аб яе душэўным характве трэба было б скласці паэму, а ў мяне пакуль з'явіліся кароткія радкі, напісаныя падчас аднаго застолля:

**Яна падзяляе з ім шчасце і гора,**
**Не чуць ад яе ані скаргаў, дакораў**
**І ціха жыве, як сасонка ля дуба.**
**Мой тост за Марыю і дзядзьку Якуба!**

Першага лістапада 1943 года Якуб Колас з Марыяй Дзмітраўнай пакінулі Сярэднюю Азію. Неўзабаве прыйшлі дарагія сэрцу лісты.

**Ад Марыі Дзмітраўны Міцкевіч:**

**«Мілая, дарагая Эдзі!**

**З Новым Годам!**

**Сёння мы атрымалі два лісты з Ташкента — ад Вас і ад Ізі. Здаецца, падыхнуў на нас цёплы вецер з далёкага ўсходу.**

**У нас тут даўно трымаецца зіма, але маразы не вялікія, часта бывае адліга. Дарогаю мы адчувалі сябе вельмі добра, асабліва, калі пачаліся хвойныя лясы. Я не магла адарвацца ад акна. У Клязьме таксама добра. Выйдзеш з хаты і здаецца, што «сосны вершинами машут приветно». У хаце цёпла, брат чакаў і падрыхтаваўся да зімы не абы як. Дровы ёсць, бульбу накапаў каля тоны, ды капуста, ды морква, нават цукровыя буракі. Паверыце, што бульбу мы варым некалькі разоў на дзень, і ніяк яна нам не прыядаецца. У Маскве я яшчэ не была ні разу, і УЛ. ФР. не бачыла, збіраюся штодзень. Каб не ўрачы, трэба пахваліцца, што яшчэ ні разу не захварэла, думаю, дапамагае антывірус, гэта такія кроплі, якія запускаюцца ў нос перад грыпам.**

**Шкада мне Вас, што смуткуеце Вы па радзіме і па блізкіх людзях. Хочацца верыць, што ў скорым часе спаткаемся, каб разам рушыць на захад. Шчырае прывітанне Вашай маме і М. С. ад усіх нас. У якім тэатры будзе пастаноўка Вашай оперы? Пішыце нам. Прывітанне Л. І. і ўсім нашым у Ташкенце. Цалую Вас моцна М. М.**
**17.XII.1943.»**

**З ліста Якуба Коласа:**

**«Дарагая Эдзінька!**
**Дужа дзякую за памяць і добрыя словы. «Голас зямлі» паслаў Вам, Святлане і Зульфіі. Зараз я пішу артыкулы, складаю вершы да 25-і годдзя БССР. Збіраюся ў Гомель. Там будзе святкаванне нашага нацыянальнага свята. Сядзеце покі што ў Ташкенце. Тут цяжка з кватэрай, з прапіскай, з харчаваннем. Апроч таго, там лёгкая зіма. Другі тыдзень, як я не магу ўзяцца за паэму. Не скончу ў гэтым годзе. У Ташкенце я скончыў бы яе цяпер. Пішыце, не забывайце... Прывітанне ўсім дамашнім. Я. КОЛАС».**

Напачатку ў Клязьме Марыя Дзмітраўна адчувала сябе няблага. Але, з цягам часу, нядаўнія частыя запаленні лёгкіх, перанесеныя ў Ташкенце, зламалі яе... Цяжка перадаць словамі трагедыю, якую перажываў Якуб Колас у дні ЯЕ адыходу з жыцця.

10 мая 1945 г. Канстанцін Міхайлавіч напісаў мне ліст, перасланы аказіяй у гасцініцу. (Мы з мамай месяцы тры жылі ў Маскве, збіраліся на радзіму ў Мінск).

З болем перачытваю гэты ліст:

**«Мілая Эдзі!**

**Званіў Вам у Грандэ-Отэль. Вас, відаць, не было. Я перажываю такія горкія і цяжкія дні, якіх ніколі не было ў маім жыцці. Мая мілая, добрая Маруся падыходзіць к канцу сваёй дарогі ў жыцці. Ляжыць яна ў Сакольніцкай больніцы, 7 корпус у палатцы, дзе ляжаць асабліва хворыя. Як відаць, у яе рак лёгкіх. Дактары праўду не кажуць — расшырэнне бронхаў, нарыў у лёгкіх. Я нідзе не знаходжу ні спакою, ні места. Сам ледзь хаджу. Я тут адзін, адзін з такім вялікім горам. Сяргей Г. мяне спацяшае. Ён страціў сваю Німфу. Цяжка яму было з ёю дык лягчэй і забыць і страту. Данік у Мінску. Прасіў праз пастпрэдства, каб ён прыязджаў. Міхаська тут, вучыцца.**

**Хацеў бы з Вамі пабачыцца.**

**Начаваць буду ў Якары, калі не аглушыць мяне абух цяжкой весткі.**

**Вечарам мяркую быць дома. К 5 гадзінам вечара паеду ў больніцу.**

**Усяго найлепшага**

**ЯКУБ КОЛАС**

**я ў № 53 Я. К.».**

...Ліст атрымала я позна вечарам і адзінае, што змагла,— пазваніла Канстанціну Міхайлавічу. Помню яго прыглушаны голас. Якуб Колас плакаў. Божа мой! Як страшна гэта было... Ён ледзь прамовіў: «Наведайце яе ў больніцы».

Назаўтра я была каля Марыі Дзмітраўны. Яна ляжала адна ў палаце. Здавалася, мала змянілася з твару. Тыя ж шэра-блакітныя, ясныя вочы. Той жа цёплы, грудны голас.

Цікавілася абсалютна ўсім. Не скардзілася, не наракала на тое, што перанесла цяжкую аперацыю. Раптам заўважыла: «Якая прыгожая ў вас сумачка!» І нават пагладзіла яе: «Мяккая якая!» Пыталася, ці наладзілася здароўе ў маёй маці. Успомніла маю сястру Таню: «Шкада, што яна ў Ташкенце не сустракалася з Ізем Флаксам».

Смяротна хворая, думала аб людзях, клапацілася аб іх. Інакшай не магла быць спадарожніца жыцця Якуба Коласа.

●

Вяртаюся ізноў у дні ваеннага ліхалецця. У доме Міцкевічаў часта бываў малады інжынер Ізя Флакс, лепшы сябар Данілы Канстанцінавіча, любімец усёй сям'і. Ён працаваў на абаронным заводзе, эвакуіраваным у Ташкент з Ленінграда. Бацькі і ўсе блізкія Ізі загінулі ў мінскім гета...

Прыгожы, вельмі сціплы, таварыскі, бескарыслівы, ён знайшоў у сям'і Якуба Коласа цяпло і ласку... Са смуткам згадвае Даніла, як яму ў 1985 г. давялося паехаць у Ленінград на пахаванне друга сваёй маладосці.

...Калі мы з сястрой прыходзілі на Пушкінскую вуліцу ў Ташкенце,— Марыя Дзмітраўна намякала Тані: «Звярніце ўвагу на Ізю!» Але яна, вясёлая і трохі легкамысная, смяялася: «Вывучуся на доктара спачатку! А колькі разоў яшчэ давядзецца «на бавоўну» з'ездзіць!» (Калі студэнтаў-медыкаў пасылалі на збор бавоўны,— у сястры не было «абмундзіравання». Пазычалі ў малодшага Міцкевіча, Міхася).

У жыцці бываюць зусім непрадбачаныя акалічнасці. Сястра пазнаёмілася са сваім будучым мужам у трагічныя для нашай сям'і часіны. Я ніколі не пісала аб горкай старонцы нашага жыцця, звязанага з маці. Мама, чалавек горды, казала: «Не трэба мне спачуванняў. Не хачу ні жаліцца, ні помсціць». І паўтарала выслоўе: «Жыццё пражыць — не поле перайсці».

Але хто ж аб гэтым раскажа, калі не я? Хто раскажа аб тым, як нам працягнуў верную, мужную руку Якуб Колас?

А было яно так. 6-га снежня 1941 г., паводле ордэра НКУС, пазначанага 5-м снежня, днём «сталінскай канстытуцыі», была арыштавана наша маці Ганна Самойлаўна Каган. У жыцці яна ўмела толькі адно: выхоўваць дзяцей і аддана працаваць у мінскай Пушкінскай бібліятэцы.

Не забуду, як двое маладых, чырванашчокіх малайцоў пакорпаліся ў нашых мізэрных пажытках і павялі маму — маленькую, худзенькую, безабаронную...

7-га снежня, раніцай, я пабегла да Якуба Коласа шукаць паратунку. Міцкевічы жылі тады ў Пушкінскім праездзе Ташкента (неўзабаве пераехалі на Пушкінскую вуліцу). Убачылі мяне заплаканую, спалоханую, устрывожыліся. Канстанцін Міхайлавіч адразу падняўся: «У мяне тут ёсць у пракуратуры знаёмы беларус. Пойдзем!»

У пракуратуры Якуб Колас размаўляў з нашым земляком, прасіў за маю маці. Ён помніў яе па Мінску, як яна наладжвала ў бібліятэцы вечары беларускіх пісьменнікаў, як любіла літаратуру. Нават Янку Купалу і яго змагла ўпрасіць на літаратурную сустрэчу.

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч! Звычайна негаваркі, ён знайшоў нямала добрых слоў у абарону маёй маці.

Мяне пазнаёмілі з абвінавачваннем.

# Подзвіг Скарыны

(Пачатак на стар. 4).

**не медыцыны прызнаць. Пад апекаю сваіх прамотараў дактароў мастацтваў і медыцыны паноў магістраў Барталамея Барызона, які ўручыў знакі (доктара медыцыны)». (Знакамі медыцынскай годнасці ў тыя часы звычайна былі: круглы берэт ці чатырохрогая шапачка, пярсцёнак, кніга «Афарызмы» Гіпакрата ці Біблія).**

Давайце ў гэты ўрачысты момант яшчэ раз успомнім добрым словам усіх тых прафесараў і настаўнікаў Ф. Скарыны, якія яго экзаменавалі, кіраўніцтва Падуанскага універсітэта і, асабліва, віцэ-прыёра тагачаснай Калегіі Тадэя Мусаці, які вызваліў беднага юнака ад непасільнай аплаты за экзамен. Адзначым, што ў той час гэта рабілася толькі для самых таленавітых і, па некаторых даных, не ахапляла больш 5 працэнтаў студэнтаў.

Падсумоўваючы сказанае, хацелася б падкрэсліць унікальнасць таго часу, які выклікаў да жыцця такіх волатаў нацыянальнага духу, як Францішак Скарына. Унікальны час нараджаў унікальных людзей, галоўнымі рысамі якіх былі:

**Самаахвярнасць,** імкненне ўсяго сябе аддаць свайму народу; імкненне да

**Кансалідацыі** беларускай народнасці, чаму ў немалой ступені садзейнічаў пераклад Бібліі на «руський язык» — на старабеларускую мову. Яна перастала быць «Lingua Vulgaris», а ўзвышалася, ставілася ўпоравень з такімі «свяшчэннымі» мовамі, як стараяўрэйская, грэчаская, лацінская.

**Апантанасць** у працы, незвычайная як па тагачасных, так і па сягонняшніх мерках. Цяжка ўявіць, як змог Ф. Скарына ў лічаныя месяцы падрыхтаваць да выдання тэксты некалькіх кніг і аздабленне (ілюстрацыі, застаўкі, буквіцы, двухколерны друк і г. д.). Не забудзем, што кожная з кніг Скарыны — шэдэўр еўрапейскага выдавецкага мастацтва;

**Рэвалюцыйнасць** Скарыны, яго дух першапраходніцтва і барацьбы. Трэба было мець грамадзянскую мужнасць, каб пераглядзець кананічныя падыходы, даць народу Біблію на зразумелай яму мове. У той час у Еўропе быў яшчэ моцны дух сярэдневякоўя. Прыгадаем, што ў 1526 годзе ў Англіі павесілі Цындаля, які хацеў выдаць на роднай мове Новы запавет.

**Інтэлігентнасць** Скарыны, яго велізарная духоўнасць і ўзнёсласць;

**Нацыянальны** характар яго дзейнасці, творчасці, жыцця. Няшмат знойдзецца людзей, якія б так дакладна, трапна, аўтэнтычна адлюстравалі ў сваіх кнігах лепшыя якасці нашага народа — стрыманасць, працавітасць, ветлівасць і талерантнасць. Любоў Скарыны да свайго народа, да роднай мовы, аднак, нідзе не перарастала ў нацыянальны эгаізм ці эгацэнтрызм;

**Асветніцтва** Скарыны, яго імкненне падзяліцца з простымі людзьмі ўсім тым лепшым, што ёсць у свеце. І зноў мы павінны ўспомніць яго прадмовы да кніг, па сутнасці, арыгінальныя філасофскія творы, кладзезь мудрасці, якія ў той час былі своеасаблівымі энцыклапедыямі, даведнікамі, першакрыніцамі ведаў для простага селяніна ці мешчаніна.

Пра подзвіг Скарыны можна гаварыць бясконца. Прыемна, што ў сваёй працы, лёсавызначальнай для нашага народа, ён быў не адзін. Услед за ім ужо ўздымаюцца магутныя постаці асветнікаў і філосафаў, пісьменнікаў і перакладчыкаў Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Сімяона Полацкага, Янкі Купалы, Якуба Коласа.

Вельмі прыемна тут, у Італіі, успомніць і аддаць належнае сучасніку Скарыны нашаму выдатнаму паэту Міколу Гусоўскаму, які ў час свайго дыпламатычнага падарожжа ў Рым пазнаёміўся з самымі славутымі людзьмі той эпохі, у тым ліку з папам Львом Х. Менавіта ён выказаў жаданне атрымаць у дар чучала нябачанага ніколі ў Італіі звера — зубра і апісанне палявання на яго. Так з'явілася на свет адна з лепшых паэм таго часу — «Песня пра зубра», напісаная на лаціне.

Сёння, адкрываючы мемарыяльную дошку ў гонар Скарыны, вы можаце ўбачыць, як выглядае гэты магутны і дзівосны звер, у нейкім сэнсе сімвал нашай нацыі.

Падкрэслім, што як і Скарына, М. Гусоўскі быў вельмі адукаваным чалавекам. Ёсць звесткі, што 1 сакавіка 1520 года ў Балонскім універсітэце ён атрымаў ступень доктара філасофіі.

Белае і чорнае... Подзвіг, трыумф і трагедыя. Як усё гэта характэрна для нашага шматпакутнага народа! Але нягледзячы на нясцерпныя выпрабаванні, войны, нацыянальныя здзекі з боку суседніх народаў, знішчэнне, здаецца, ушчэнт нацыянальнай культуры, ён выстаяў і перамог. Выстаяў дзякуючы таму, што на нацыянальным небасхіле заўсёды зіхацела нязгасная зорка Скарыны.

Сусветная слава сёння не грэе Францішка Скарыну, але яна патрэбна яго народу. Цяпер, як ніколі, калі мы ствараем незалежную дзяржаву, дзяржаву ва ўлонні Новай Еўропы, нам патрэбна такое нацыянальнае духоўнае апірышча, як ідэі і запаветы Скарыны.

Я мару пра тое, што некалі здзейсніцца амаль немагчымае: мы знойдзем святы прах Францішка Скарыны. Знойдзем і з гонарам перанясём у Нацыянальны Пантэон, які павінна мець кожная цывілізаваная нацыя. Перанясём туды ўсіх тых, хто з'яўляецца гонарам і сумленнем нацыі. Перанясём, каб ніколі не забываць пра продкаў, пра свае карані, пра сваю чалавечую годнасць, пра тое, што мы мацнеем як НАРОД.

Калі ў людзей ёсць такая мэта, такая мара, упэўнены, што яна павінна рана ці позна здзейсніцца.

У заключэнне хачу шчыра падзякаваць усім тым, хто спрыяў арганізацыі гэтага мерапрыемства, прафесарам, выкладчыкам і студэнтам Падуанскага універсітэта.

Словы сардэчнай павагі хачу выказаць кіраўніцтву універсітэта, асабліва яго рэктару спадару Бонсамб'янтэ.

**Шчырае дзякуй за ўвагу!**


Мікалаеўшчына. 1974 г.

Маці напісала ліст да бацькавага старэйшага брата ў Амерыку. (Той вельмі даўно выехаў туды, і наўрад ці помніла маці яго адрас.— **Э. А.**). Пракурор сурова гаварыў: «Нельга пісаць за мяжу аб тым, што вы ўцякалі з Мінска ў чым стаялі! Свае антысавецкія выказванні яна паўтарала і некаторым вашым суседзям. Да таго ж яна ў лісце прасіла прыслаць рэчы з абутку і адзення. Гэта ўжо зусім недаравальна!»

(Часы мяняюцца... І ўжо адразу пасля вайны у Саюзе пісьменнікаў на вуліцы Берсана ў Мінску дзялілі рэчы, прысланыя амерыканскімі жанчынамі для нашых жанчын і дзяцей).

...Трэба аддаць належнае ўзбекскім пісьменнікам. Калі я расказала аб сваім горы старшыні пісьменніцкага саюза Хаміду Алімджану — мужу паэткі Зульфіі, ён супакойваў мяне. Ды і ніхто з узбекаў не глянуў скоса на мяне, не пакрыўдзіў і словам.

Мы з сястрой ледзь не кожны дзень пісалі лісты ў Маскву ў розныя інстанцыі. Прасілі, прасілі! Не ведаю, ці даходзілі нашы лісты. Была ж строгая ваенная цэнзура. Але адзін ліст павёз у Маскву сам Якуб Колас. Ён ехаў у Казань на сесію АН Беларусі. У Маскве быў 10-га лютага 1942 года. Ліст апусціў у скрынку на будынку НКУС.

Другі ліст ласкава згадзіўся апусціць у тую ж самую скрынку драматург Барыс Лаўранёў, які ехаў у Маскву ўлетку 1942 года. Дарэчы, ён сказаў, што вязе аналагічны ліст ад сына ленінградскага паэта Аляксандра Пракоф'ева. Нявестка паэта, маладзенькая полька, таксама была за кратамі. Потым аказалася, што сядзела яна з мамай у адной камеры.

...Маму рэдка пакідала пачуццё гумару. І ў самыя чорныя часы «смех праз слёзы» быў з ёю. Пазней яна раскажа нам: «У час начных допытаў я спрабавала павучаць маладога следчага. Сынок, і ў цябе, пэўна, ёсць маці? Мой сын трохі маладзейшы за цябе, пайшоў добраахвотнікам на фронт, а ты завёў мяне ў няволю. Ды што я вучу цябе! Ты ж сам нявольнік свайго часу! Ён разгневаўся, хацеў падняць на мяне руку. Але рука міжволі апусцілася. Мабыць, была ў хлопца кропелька сумлення...»

У мамы была адна рэч-рэліквія, якую з яе знялі ў час вобыску — гадзіннік майго бацькі. З турмы яна напісала прашэнне: перадавала гадзіннік у дапамогу Чырвонай Арміі.

...Цяжкая, доўгая дарога да акна перадач у турму. Час быў галодны. Як сабраць перадачы для мамы? Добрыя людзі не пакідалі нас у бядзе: заўсёды міласэрная Марыя Дзмітраўна, малады кампазітар Алёша Клумаў, пляменнік вядомага прафесара Я. У. Клумава, Німфа Гарадзецкая. Кожны дапамагаў, чым мог. Нізка кланяюся ім!

Мы з сястрой Таняй убачылі нашу бедную мамачку за калючым дротам у лагеры Урта-Аул. Позірк такі, быццам яна сама адсутнічае. Старая кофтачка былога блакітнага колеру — у шматочках бавоўны. Паспела мама ціха сказаць: «Не тужыце, дачушкі! А што было б, калі б я засталася ў Мінску? Загінула б, пэўна. Тут жа я сярод сваіх». Змучаная, яна суцяшала нас... Сэрца Маці!

Цяжка, горка было на душы.

Калі мы вярталіся ў Ташкент, у разбіты вагончык ускочыў малады капітан з камандай салдат. Вайсковая часць пераязджала на новае месца. Капітану Таіру-Ідрысу вельмі спадабалася мая сястра Таня. Гэта было, як кажуць, каханне з першага позірку.

Вось так у жыцці трагічнае пераплытаецца з нечакана-светлым...

Мы яшчэ адзін раз паспелі з'ездзіць у лагер да маці. А 12-га кастрычніка 1942 года мама вярнулася дадому! Яна была асуджана на тры гады «Особым Совещанием при Народном Комиссаре внутренних дел СССР по ст. антисоветские высказывания». Гэты прыгавор быў зменены: «три года считать условными с тем же испытательным сроком из-под стражи 12 октября 1942 г. освободить. На дорогу — 65 р. 53 к.»

Наступныя тры гады выпрабавання віселі страхам над галавой. Але мы былі шчаслівыя ад думкі, што мама з намі!

Прыходзілі да нас яе сяброўкі па камеры. На волю выпусцілі ўсіх чатырох жанчын. Але зноў жа — з выпрабавальным тэрмінам. Сярод гасцей была і нявестка паэта Пракоф'ева. Яна прыйшла з мужам, цалавала маму. І з такім прывабным польскім вымаўленнем расказвала, як наша мама аднаго разу ўбачыла праз краты ў начным небе яркую зорку. І горка заплакала: «Зорка Венера! Мая дачка Эдзя так любіць спяваць гэтую песню! Мне б хоць яшчэ раз у жыцці пачуць, як яна спявае «Зорку Венеру»...

Затым была ў нас новая «эпапея»: з такім дакументам маці была адмоўлена прапіска ў горадзе. Ізноў дапамог Якуб Колас. Ізноў ЁН, ізноў ЁН!

Мы з маці часта ўспаміналі Якуба Коласа, маліліся за яго здароўе.

●

Перачытваю сардэчныя лісты Якуба Коласа, аўтографы на кнігах ваенных гадоў,— чую яго голас, бачу яго постаць то на Пушкінскай вуліцы Ташкента, то ў лесе, на сцежках Каралішчавічаў.

Канстанцін Міхайлавіч не меў уласнай дачы, не імкнуўся да яе. Ён сцвярджаў, што найлепшай дачай з'яўляецца яго мінскі дом пад соснамі, убаку ад гарадскога шуму, паблізу найпрыгажэйшага Батанічнага саду, дзе так прыемна бывае гуляць.

У Каралішчавічах людзей радавала сама яго прысутнасць у Доме творчасці.

Вось Якуб Колас углядаецца ў неба, цешыцца з аблокаў — прадвеснікаў яго любімых хмар...

Вось ён адпачывае ў цішыні на лавачцы...

Аднаго разу я паднесла Канстанціну Міхайлавічу букецік з чабору і бярозавых лісточкаў. Ён толькі сказаў: «Чабор любіла мая Маруся...» Заўважыў мой вянок, сплецены з васількоў, усміхнуўся: «Афелія!» Чаму ўзнікла такое параўнанне?

Помніцца лета 1953-га. У сталовай Дома творчасці пасля вячэры засталіся каля Канстанціна Міхайлавіча Янка Брыль, Мікола Аўрамчык, Анатоль Вялюгін, Рыгор Няхай і я.

Кожнаму хацелася сказаць Якубу Коласу штосьці добрае, ласкавае. А Канстанцін Міхайлавіч павярнуў гутарку па-свойму: ён вельмі хваліў вершы Аўрамчыка. Сказаў, што пазайздросціў Брылю, калі прачытаў яго апавяданне «Галя»: «Чаму я сам так не напісаў?» Янка Брыль расхваляваўся, засланіў твар рукамі, каб схаваць слёзы...

**Эдзі АГНЯЦВЕТ.**

---

Тлумачэнні да лістоў. УЛ. ФР.—Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, жонка Янкі Купалы.

М. С.—Міша, мой муж, які ўжо быў пад Масквой. Л. І.—Любоў Іванаўна Фіглоўская, супрацоўніца Акадэміі навук Беларусі. Сяргей Г.—рускі паэт Сяргей Гарадзецкі. Німфа—яго жонка Ганна Аляксееўна.

**РАДЫЁ**

# АБНОЎЛЕНЫ ЭФІР

«ЛіМ» ужо паведамляў пра работу радыёстанцыі «Крыніца», што працуе раніцай — з 8 да 9 гадзін — па другой праграме радыё. З 19 кастрычніка радыёэфір рэспублікі зноў абноўлены: з 11 да 12 гадзін па першай праграме і з 12 да 14 гадзін па другой праграме працуе радыёстанцыя «Беларуская маладзёжная», чые інфармацыйна-гуманітарныя каналы на працягу апошняга года прыцягвалі ўвагу слухачоў. Увагу прыцягваюць і перадачы «Маладзёжкі» ў абноўленым эфіры, выхад у які адбыўся пад лозунгам «Новая праграма, новая каманда, новая энергетыка!». На працягу тыдня слухачы маглі пазнаёміцца з такімі новымі і адмысловымі перадачамі, як «Радыё «Ч», «Інфарадыё», «Трэш-доза», «Касмадрым», «Шок-праграма «Шанц», «Нядзельны трылер» і інш. У эфіры гучалі цікавыя, дынамічныя паведамленні, інтэрв'ю з грамадскімі дзеячамі, парады беларускага астролага... Можна шчыра павіншаваць журналістаў і супрацоўнікаў «Беларускай маладзёжнай» з вышукам новых творчых формаў, з прыўнясеннем ў першую праграму рэспубліканскага радыё сапраўды новай, насычанай энергетыкі. І тут жа трэба засмуціцца той акалічнасцю, што праца сесіі Вярхоўнага Савета перапыніла (спадзяёмся, часова) перадачы «БМ» па першай праграме. Будзем іх чакаць!

Застаецца назваць прозвішчы стваральнікаў новых праграм — нашых прыемных радыёсуразмоўцаў. Гэта мадэратары праграм Віталь Сямашка, Таццяна Мельнічук, Алесь Дайнека, Алена Радкевіч, гукарэжысёры Зміцер Новікаў і Уладзя Сакульскі і інш.

**Ю. З.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# ПАЖАДАННЕ «ЛіМу»

## ў час падпіскі на яго

Год быў для мяне не благім,
Я зноў падпісаўся на «ЛіМ».

Бо хоць у кішэнях і пуста,
Тыднёвік прыйшоўся па густу.

Мне «ЛіМ» памагаў у бядзе,
Не горбіўся з ім я нідзе.

Клялі яго ўсе плутакраты,
Яны б яго—толькі за краты!

Але ўжо часіны не тыя,
Мінуліся дні залатыя

Для чорнай эліты кнута,
Ім сённяшні дзень—пустата.

А ты, штотыднёвік, мацуйся
Ды добра у кузні падкуйся!

Брыкайся, маланкай палі
Паганую нечысць зямлі!

Каб енк іх апошні й плач,
Пачуў твой найлепшы чытач!

**Браніслаў ПЯТКЕВІЧ,**
**пенсіянер.**

Полацкі раён.

**ЛІСТ З АЎСТРЫІ**

# Беларусы паўсталі з еўрапейскае традыцыі...

Як зацікаўлены наглядальнік беларускага адраджэння бачу, на жаль, колькі беларусаў адчуваюць моцнае прыцягненне да рускай мовы, а гэта значыць, да сапраўды чужога ім спосабу мыслення, чужой традыцыі і культуры. Беларусь чатыры стагоддзі была часткаю Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай і такім чынам складала інтэгральны кампанент Еўропы. І ў часе, калі ў Маскве лютавалі ўсемагутныя цары, Беларусь удзельнічала ва ўсіх еўрапейскіх духоўных рухах, такіх, як рэфармацыя, гуманізм, контррэфармацыя, рэнесанс і г. д.; яна жыла ў зусім іншай духоўнай атмасферы, чым маскоўская дзяржава. У Беларусі гарадам надавалася магдэбургскае права, існавала юрыдычная абарона асобы, законы гарантавалі правы чалавека, панавала талерантнасць.

Супраць чатырох стагоддзяў еўрапейскай традыцыі стаяць толькі два стагоддзі ўплываў расійска-візантыйска-татарска-азіяцкіх: неабмежаваная ўлада цара альбо дыктатара, рабалепная прыніжанасць запрыгоненых, адсутнасць абароны асобы, нецярпімасць. На маю думку, беларусы павінны больш шанаваць памяць пра іх еўрапейскую спадчыну, каторая блізка звязана з беларускаю моваю. Інакш кажучы: хто арыентаваны на беларускую мову — арыентаваны на Еўропу, прытрымліваецца рускай мовы—скіраваны на іншы, візантыйска-азіяцкі свет.

**Фердынанд НОЙРАЙТАР,**
**перакладчык.**

г. Зальцбург,
Аўстрыя.

# НА СХОД!

Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» выступіла з ініцыятывай склікання і правядзення першага сходу беларусаў блізкага замежжа. Сход будзе праходзіць пад дэвізам «Мы не пасынкі твае, Беларусь». Беларусы з еўрапейскага і азіяцкага абшару прывязуць у Менск і выкладуць перад афіцыйнымі ўладамі і грамадскай супольнасцю набалелае, раскажуць, што замінае ім адчуваць сябе паўнакроўнымі дочкамі і сынамі сваёй Маці-Беларусі. Найперш будуць узняты такія праблемы, як набыццё замежнымі беларусамі грамадзянства Рэспублікі Беларусь, а таксама ўласнасці, вяртанне беларускіх афіцэраў на Бацькаўшчыну, стварэнне ў Менску Беларускага Дома, які мог бы стаць родным для беларускага замежжа.

Першы сход беларусаў блізкага замежжа адбудзецца ў Менску 19—20 снежня (вул. Фрунзе, 5, Дом літаратара). Хто хоча ўзяць у ім удзел, можа паведаміць аб гэтым на адрас старшыні рады ЗБС «Бацькаўшчына» Яўгена Лецкі: 220053, Беларусь, Менск, Даўгінаўскі тракт, д. 52, кв. 9 (тэл. і факс 37-91-87), тэлефанаваць у «Бацькаўшчыну» (27-32-38), альбо старшыні аргкамітэта сходу Валеру Герасімаву (26-63-52) (х.), 20-10-66 (сл.).

